PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 37 (1948) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 12 ВЕРАСНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*На полі ўвосень.* **Фота Я. Целушэцкага**

## ІЛЮЗІЯ РЫНАЧНАЙ ГАСПАДАРКІ

У беластоцкіх „Далікатэсах" можам цяпер купіць чатырнаццаць гатункаў хлеба, дванаццаць сыру, а каўбаса сваім выглядам і пахам здалёк заахвочвае падысці да прылаўка. Прапалі чэргі, а прыгожыя дзяўчаты гатовыя падаць нам любую бутэльку каньяку, гарэлкі, віна, піва. У цэнтры горада ў велізарнай краме больш прадаўшчыц, чым пакупнікоў. Там, дзе прадаюць каўбасу, не хапае толькі папулярных і танных „кашанак", „сальцісонаў", „паштэтаў". Раскупілі іх першыя кліенты. Вісяць толькі дарагія гатункі мяса, па 100 тысяч злотых за кілаграм. Мог бы хтосьці падумаць, што палякі не любяць „балеронаў", „паляндвіцаў", „жывецкай" і перасталі піць гарэлку і піва. Гэтае багацце захапляе толькі турыстаў з усходу, а ў мясцовых выклікае толькі злосць. Яшчэ пяць гадоў таму чалавек ставаў у чаргу, не пытаўся нават, што будуць акурат прадаваць, але меў грошы і ведаў, што трэба нешта купіць. Цешыўся, калі купіў радыёпрыёмнік, хаця тыдзень таму такі самы апарат прынесла да хаты жонка, а цешча магчыма прынясе такі ж заўтра. Купіў пачку цыгарэтаў без талона і таксама цешыўся. Чалавек проста безупынна быў чамусьці шчаслівы.

На ўскраінах горада Беластока таксама квітнее капіталізм. На кожнай вуліцы сустрэнеш некалькі крамаў. Асартымент тавараў ва ўсіх іх падобны. Мігацяць замежныя надпісы на ўпакоўках. Найгоршыя гатункі „чыпсаў", шакаладаў, напіткаў, якія даўно павінны трапіць на сметнік з'яўляюцца сімвалам адкрытых межаў і аператыўнасці прыватнага гандлю.

Купляе чалавек у элегантнай, чыстай краме індыйскую гарбату ў англійскай упакоўцы. Цана немалая — як за замежны тавар. Дома толькі можа зарыентавацца, што купіў звычайны „грузінскі" ці „папулярны" чай, але заплаціў у тры разы больш, чым за такі самы тавар у арыгінальнай упакоўцы.

Некаторым траплялася яшчэ горш. Купілі, напрыклад, рэкламаваны шампунь „Відаль-сасун", а памыўшы ім галаву, трацілі палову валасоў.

Некалькі кіламетраў ад цэнтра горада, так як і дзесяць гадоў таму назад, можна купіць толькі адзін гатунак хлеба, сыр бывае час ад часу, малако — толькі раніцай. Хлеб, які ляжыць ужо ў краме цэлыя суткі, уласнік крамы прапануе нам купіць на другі дзень па нязменнай цане. І падумаць толькі, што яго нямецкія калегі цану непрададзеных булак і хлеба зніжаюць кожныя тры гадзіны. Але ж гэтыя „імперыялісты" на ўсялякі спосаб хочуць абдурыць „рабочы народ"!

Заходні капіталізм характэрны тым, што ўласнік кожнай фірмы дбае, каб сын сённяшняга кліента стаў у будучым кліентам яго наследнікаў. Кожны „імперыяліст" ведае, што камбінатарства — добрае толькі на кароткі час. У нас — наадварот, стала яно прынцыпам гаспадарчага жыцця.

☞ *Працяг на стар. 3*

## СУМНЫ СПАС СУПРАСЛЬСКАЙ БОЖАЙ МАЦІ

Пагодны дзень 17 жніўня не прадвяшчаў нічога зласвеснага. Усё ў Супрасльскім праваслаўным манастыры ішло звычайным, размеркаваным рытмам.

Манахі, як заўсёды, усталі рана, а пятай сорак пяць, бо ў гэтую пару пачынаецца ў манастыры дзень; пасля туалета маліліся ў сваіх келлях, а ўжо а шостай трыццаць была служба ў царкве. У будні дзеньканчалася яна каля восьмай раніцы, потым было снеданне, а пасля яго пачыналіся брацкія заняткі.

Кожны з манахаў займаўся тады сваёй дзялянкай. Хтось прыбіраў, нехта рыхтаваў ежу, іншыя малявалі іконы. Зімою манахі вучаць у школах, але цяпер былі яшчэ вакацыі. Заняткаў, аднак, не бракавала нікому.

А другой гадзіне быў абед, пасля невялікі адпачынак, а пятай трыццаць — звон у царкву, бо а пятай сорак пяць ізноў пачыналася служба.

На вячэру вярнуліся пасля восьмай вечара і яшчэ ад дзесятай да адзінаццай пятнаццаць маліліся ў сваіх келлях.

У заўсёды спакойным манастыры быццам яшчэ паспакайнела: частка манахаў ужо 14 ліпеня пайшла ў паломніцтва на святую гару Грабарку, дзе на Спаса штогод адбываецца вялікае святкаванне. І, здавалася б, ніхто — апрача прыроды — не быў у стане парушыць цішыню манастыра і супрасльскіх ваколіц.

Праўда, тыдні тры таму назад, 25 ліпеня, было тут аж занадта гучна, прыязджала нават паліцыя, назбіралася людзей. Зладзеі ўзламаліся ў Багаслоўскую царкву і ўзялі тады тры мільёны злотых — людскія ахвяраванні на адбудову Благавешчанскага храма. Паперастаўлялі таксама рэчы ў царкве. У царкву ўлезлі, выламаўшы двое дзвярэй.

Здарылася гэта ў нядзелю пасля службы. Калі браты адпачывалі, прагульваліся — заўважылі пакражу, і перапуджаныя зладзеі ўцяклі. 26 ліпеня, у панядзелак манахі самі злавілі семнаццацігодка, які прыйшоў за ўкрадзеным і прыхаваным дабром. Зладзеяў арыштавалі. Цяпер следства яшчэ ідзе, але іх пакуль што выпусцілі.

Вельмі хваляваліся манахі: там жа, за царкоўнымі дзвярыма знаходзілася ікона Супрасльскай Божай Маці, гонар іх манастыра. Дзякуй Богу, што яе не кранулі! Ікона гэтая была прывезена ў Супрасль яшчэ ў 1503 годзе. Была яна копіяй іконы Смаленскай Божай Маці і знаходзілася там аж да 1915 года, пакуль не вывезлі яе разам з мошчамі мучаніка младзенца Гаўрыла ў Расею ў бежанства, каб ратаваць. Праўда, як цудатворная яна ўжо ў Супрасль не вярнулася, але тут засталіся дзве яе копіі. І гэта якраз адна з іх — тая, што знаходзіцца ў царкве Св. Іаана Багаслова, а намаляваная была на 400-годдзе Супрасльскай лаўры ў 1900 годзе. У 1925 годзе ікона была перанесена ў царкву на могільніку, у 42-ім — ізноў у гэту царкву, у 55-ым — праваслаўе ізноў выгналі з гэтай царквы. Вярнулася сюды ікона ў 1958 годзе і стаіць тут, дзякуй Богу, да сёння. Ікона вялікая, і не так проста было б яе незаўважальна вынесці, канстатуе айцец архімандрыт Мірон, намеснік Супрасльскага манастыра, які інфармуе нас пра ўсе апошнія падзеі. Як штогод, 9—10 жніўня шчасліва адсвяткавалі свята іконы Супрасльскай Божай Маці.

Людзі цешыліся, рыхтаваліся цяпер да вялікага свята Спаса.

Раніцай, 18 жніўня ва ўзнёслым настроі, з сэрцамі, перапоўненымі ўнутранай гармоніяй, браты-манахі пасля шостай гадзіны раніцы прыйшлі ў

☞ *Працяг на стар. 5*



*Супрасльскі Свята-Благавешчанскі мужчынскі манастыр.*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Michał Turowski to był gość! Miał paru ostrych chłopaków, parę rozpylaczy i nikt im nie podskoczył. Rządzili w całym białostockim powiecie.*

*Turowski z kumplami na ten przykład lubili pojeść, pojeździć wozem konnym, ubrać się.*

*W maju 1945 r. w Starosielcach wzięli człowiekowi 8 kg kiełbasy, w lecie 1945 r. od Marii Zołotar wzięli wieprza, konia z wozem i ciuchy, w sierpniu tegoż roku od Józefa Zagórskiego też konia z wozem, 13 lutego 1946 r. następnego wieprza. Jak i tego zjedli, to na wiosnę 1946 r. od Mikołaja Kołodko wzięli dwa wieprze i ciuchy. Starczyło aż do jesieni, bo dopiero na jesieni postarali się o kolejnego wieprza. Ludzie właściwie sami im te świnie dawali, z dobrego serca. Czasem nawet nie mówili jak się nazywają, bo ich zatykało od szczęścia na widok tych wspaniałych, uzbrojonych po zęby „leśnych".*

*Niestety, komuna potraktowała Michała Turowskiego jak zwykłego bandziora, który napadał z bronią w ręku. Skazała go za to na 15 lat. Wyszedł po 4. Trzeba było dopiero zmiany ustroju, żeby Michał Turowski doczekał się sprawiedliwości. Doczekał, ale nie dożył, bo umarł rok temu. Pomścił go brat, który złożył wniosek o unieważnienie komuszego wyroku. Sąd Wojewódzki w Białymstoku w składzie:* **TAMARA GRYGORUK, JAN SIDORUK, BEATA OLIFIERUK** *uznał, że bandyta Turowski został skazany za czyny związane z działalnością na rzecz niepodległego bytu Państwa Polskiego i wyrok z 1951 r. unieważnił.*

*(NIE, nr 34)*

* * *

*Mińskie MSZ zwróciło się do ONZ o uznanie Białorusi za kraj słabiej rozwinięty ekonomicznie niż traktowano go dotychczas. Białorusi nie stać na płacenie wysokich składek członkowskich na ONZ-owskie operacje pokojowe. (...)*

*W 1973 r. władze w Mińsku, oczywiście przy poparciu Związku Radzieckiego, zwróciły się o uznanie Białorusi za kraj najbardziej rozwinięty gospodarczo. (...)*

*Teraz Mińsk chce należeć do grupy państw słabiej rozwiniętych i mniej płacić. (...)*

*Kilka miesięcy temu Stanisław Szuszkiewicz krytykował MSZ za to, że nie uczynił on nic, by ONZ zmniejszyła wysokość składek dla Białorusi. (...) W odpowiedzi szef MSZ Krauczanka poradził mu, by zajmował się pracami parlamentu i nie wtrącał się w kompetencje rządu. Obecna nota zdaje się świadczyć o tym, że ambitny minister pośrednio przyznał się do swego błędu.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 199)*

* * *

*Na początku sierpnia dolar na czarnym rynku na Ukrainie kosztował 4,5 tys. karbowańców, dziś — 8,5 do 9 tys. Ale na kijowskiej walutowej giełdzie dla przedsiębiorstw za dolara płacono w piątek ponad 19 tys. karbowańców. Jeden z parlamentarzystów cierpko zauważył, że Ukrainę należałoby wpisać do Księgi Guinessa, gdyż jest jedynym krajem na świecie, gdzie kurs czarnorynkowy jest niższy od oficjalnego.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 199)*

* * *

*Aż 60 % Polaków nie zauważyło, że od maja nie ma już Sejmu ani Senatu. Mało tego: ocenili, że w czerwcu i lipcu nasz parlament pracował „gorzej niż poprzednio".*

*(Gazeta Wyborcza, nr 197)*

Магчыма, што парламента няма. Але амаль усе парламентарыі цяпер працуюць у выбарчай кампаніі, і ацэнка іхняй працы — gorzej niż poprzednio — на нашу думку, адпавядае праўдзе.

* * *

***Сведчаннем пранікнення ў крэдытна-банкаўскую сістэму мафіі стала ўзнікненне ў гэтай сістэме розных камерцыйных структур, якія забяспечваюць (і, зразумела, не бясплатна, а за вялікі працэнт) пералічэнне грошай у любы пункт былога Саюза за 3—5 дзён, тады як па „нармальнай" схеме для гэтага патрабуецца 3—5 месяцаў.***

***(Звязда, н-р 154)***

Нашым чытачам пытанне: хто сапраўдная мафія — тая, што вымагае аператыўнасць банкавай сістэмы звонку, ці тая, што сядзіць у банках?

* * *

*Opinie zarozumiałych i wyniosłych mają przede wszystkim politycy ze Zjednoczenia Chrześcijańsko-Narodowego (15 % ankietowanych) (...)*

*Zachłanność i chciwość przypisywana jest też ZChN (10 %) (...)*

*Niemoralność w życiu osobistym to też — w stereotypie podzielanym przez 7,5 % Polaków — domena polityków ZChN.*

*(Polityka, nr 35)*

І гэта ўсяго па трох гадах панавання хрысціянскіх вартасцяў у грамадстве. Які імідж будзе мець хрысціянін у Польшчы па наступных трох гадах?

## З мінулага тыдня

**Большасць літоўскіх палітычных партый** мае намер звярнуцца да ўрада з патрабаваннем „астудзіць адносіны з Польшчай, пакуль не будзе асуджана агрэсія, акупацыя і анексія Літвы ў гадах 1919-1945". Групоўкі, сярод якіх няма Дэмакратычнай партыі працы, якая зараз правіць краінай, удзельнічалі ў канферэнцыі, арганізаванай Дзяржаўнай камісіяй па рэгіянальных пытаннях. Заява мае быць перададзена прэзідэнту Літвы.

**Апошнія трыста расейскіх салдат** з дэсантнай часці ў Коўне, пасля ўрачыстага развітання, пакінулі Літву. Літва — першая прыбалтыйская рэспубліка, з якой выехалі ўсе салдаты колішняй Чырвонай Арміі. Расея яшчэ не ўзгодніла тэрміну вываду сваіх войскаў з Латвіі і Эстоніі.

Маладая літоўская спявачка **Арына Барунова** заваявала „Гран пры" **XXX Міжнароднага фестывалю Сопат'93**. У Лясной оперы атрымала яна статуэтку „Янтарнага салаўя" і 15 тысяч долараў ад спонсара фестывалю — страхавой кампаніі ПЗУ.

**З 1 верасня** працуе новы кантрольна-прапускны пункт на польска-літоўскай граніцы **Будзіска-Кальварыя**, праз які могуць праязджаць грузавыя машыны. У сувязі з візітам папы **Яна Паўла II** у краіны Прыбалтыкі часова гэтым КПП карысталіся пілігрымы з Польшчы.

**У Белавежы адбыўся XXIII Цэнтральны злёт краязнаўцаў**, прысвечаны пытанням нацыянальных паркаў, запаведнікаў прыроды і турыстыцы. Супрацоўнікі нацыянальных паркаў і члены Польскага краязнаўча-турыстычнага таварыства, якія ўдзельнічалі ў злёце, прапанавалі, каб прыгранічныя запаведныя тэрыторыі сталі месцам супрацоўніцтва ў галіне навукі, краязнаўства, турыстыкі і гаспадаркі. Павінны яны быць больш адкрытыя па абодвух баках мяжы, а ў прыгранічных зонах павінны абавязваць уніфікаваныя законы аб ахове прыроды. Неўзабаве будзе распрацаваная новая турыстычная карта абедзвюх частак Белавежскай пушчы.

У Белавежы адбываюцца чарговыя **Міжнародныя жывапісныя сустрэчы**, у якіх прымаюць удзел мастакі сярэдняга і малодшага ўзростаў. Апрача краёвых і мясцовых мастакоў у пленэры прымаюць удзел жывапісцы з Беларусі і Нямеччыны. Як паведаміў камісар пленэру **Ежы Лянгевіч** з Беластока, з карцін, напісаных у Белавежскай пушчы ў будучым будзе створана адмысловая галерэя.

**Рыхтуецца новы адміністрацыйны падзел краіны**, у выніку якога будзе створана 320 паветаў і 48 выдзеленыя гарады. У Беластоцкім ваяводстве сядзібамі паветаў будуць: Беласток, Бельск-Падляшскі, Гайнаўка, Лапы, Монькі, Сямяцічы і Саколка. Выдзеленым горадам стане сам Беласток. Адпаведная камісія Рады Міністраў не ўзяла пад увагу старанняў улад Дубровы-Беластоцкай стаць сядзібай павета, якой была яна да 1975 г.

**У Беластоцкім ваяводстве** вядзецца акцыя па прышчэпліванні дыфтэрыту. Санэпідстанцыя развяла па пунктах аховы здароўя ў ваяводстве 25 тысяч прышчэпак, калі Ваяводскі цэнтр медыцыны працы мяркуе, што патрэба іх каля 30 тысяч. У нашым ваяводстве пражывае каля 100 тысяч чалавек ва ўзросце 20-29 гадоў, якім у найбольшай ступені пагражае магчымасць захварэць дыфтэрытам. Супраць дыфтэрыту павінны прышчапіцца ўсе, хто выязджае на Усход або хто сутыкаецца з прыезджымі з усходніх краін.

**Здадзена ў карыстанне энергетычная лінія Варшава — Беласток** магутнасцю ў 400 кілавольт. Дзякуючы інвестыцыі, паўночна-ўсходні рэгіён Польшчы не будзе залежны ад паставак электраэнергіі з Усходу, што дасць ашчаднасць у некалькі мільёнаў долараў у год. З гэтай нагоды адбылася ўрачыстасць адкрыцця энергавузла „Нараў" у Турасні-Касцельнай з удзелам віцэ-міністра прамысловасці **Эўгеніюша Мараўскага**.

**Пачаўся новы 1993/1994 школьны год.** У Беластоцкім ваяводстве падставовыя школы наведвае 94 174 вучняў, а сярэднія — 40 000.

**Да рэгулярнай бітвы** паміж пасажырамі і паліцыяй дайшло **на аэрадроме Унукава каля Масквы.** Некалькі соцень пасажыраў уварвалася на ўзлётна-пасадачныя палосы пасля чатырох дзён чакання на вылет самалётаў у Новасібірск і Краснаярск, якія так і не адбыўся з-за браку бензіну. Пасля паведамлення кіраўніцтва аэрапорта, што бензіну ў найбліжэйшыя дні не будзе, раз'юшаны тлум пачаў штурмаваць узлётна-пасадачныя палосы, на якіх стаялі пустыя самалёты.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Пачаўся новы школьны год.
- Фабіян Акінчыц і ягоны лёс — ці існаваў беларускі фашызм?
- Як жывецца людзям з затопленых вёсак.
- Самакрытыка Мікалая Панфілюка.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### САЮЗ БЕЗЫМЕНЫ

Апасенні наконт частковай страты суверэнітэту Беларусі ў фінансава-крэдытнай і мытнай палітыцы апраўдаліся — Каардынацыйна-кансультатыўны камітэт краін СНД канчаткова распрацаваў праект саюза ў межах Садружнасці.

Нованароджаны дагавор пакуль, праўда, не атрымаў імя. Палітычную дылему — „Эканамічны саюз" ці „Дагавор аб эканамічным супольніцтве" вырашаць кіраўнікі дзяржаў на сустрэчы 7 верасня.

Па словах віцэ-прэм'ера Расеі Аляксандра Шохіна, эканамічны саюз — проста прыстасаванне да натуральнага ходу падзей, калі, апёкшыся на спробе эканамічнага разводу, дзяржавы проста вымушаны шукаць прымірэння. Шохін адзначыў, што новаўтвораны дагавор дапаможа выраўняць тэмпы і хуткасці эканамічных рэформ у краінах, якія яго падпішуць.

Здаецца, гэтую гістарычную ісціну мы ўжо засвойвалі падчас стварэння ў 1922 годзе Саюза ССР. Ці будзе наступная спроба адзначана больш высока?

### ГАЗАВЫ ГОЛАД ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Шматлікія сустрэчы на розных узроўнях паміж прадстаўнікамі Беларусі і Расеі ў Маскве далі станоўчыя вынікі — газавы вентыль крышачку прыадчынены, і замест 17 мільёнаў кубаметраў газу ў горшыя часіны суседняя дзяржава выдзяляе сёння 22.

Тым не менш, пагроза энергетычнага крызісу па-ранейшаму вісіць над Беларуссю. Скарочаны многія гарадскія, прыгарадныя і нават міжгароднія маршруты грамадскага транспарту, якім карыстаецца большасць жыхароў рэспублікі. Ёсць пагроза, што ў сталіцы з-за недахопу паліва 30 працэнтаў аўтатранспарту не выйдуць на лінію і дзесяткі тысяч гараджан будуць дабірацца на работу пешшу. Праўда, большая частка буйных і малых прадпрыемстваў усё яшчэ не працуюць.

Сітуацыя можа быць палепшыцца, калі Расея будзе атрымліваць заплату за газ спаўна, што многім беларускім прадпрыемствам не пад сілу. На сённяшні дзень у рэспубліцы 150 даўжнікоў.

### МЫ РАСЕЮ АБАГНАЛІ

Нягледзячы на ўсе эканамічныя цяжкасці, якія напаткалі апошнім часам рэспубліку, па дадзеных даследавання „Палітычныя і эканамічныя рызыкі міжнароднага бізнесу: Расея", Беларусь апынулася на першым месцы ў СНД па велічыні ўнутранага валавога прадукту на душу насельніцтва, абагнаўшы нават Расею.

Па ўзроўню стабільнасці Беларусь абагнала толькі Эстонія. Што ж датычыць астатніх, акрамя Беларусі, Расеі, Украіны і Літвы, дык яны лічацца рэгіёнамі, якія наогул лепш не наведваць.

### КОЖНАМУ СВАЁ

Апазіцыя Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце занепакоена сітуацыяй, якая склалася ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі напярэдадні новых выбараў. У прыватнасці, стварэннем новых структур па кіраўніцтву прэсай і кадравымі назначэннямі ў сістэме дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі без узгаднення адпаведнай камісіі Вярхоўнага Савета.

У той жа час лідэраў Партыі камуністаў Беларусі хвалююць праблемы куды больш маштабныя — ідэя канфедэрацыі трох славянскіх рэспублік, зразумела, пад „чырвоным" сцягам. З гэтай нагоды камуністы Расеі, Украіны і Беларусі сустрэліся ў Менску.

Што ж, хто імкнецца да дэмакратыі, хто — да слаўных традыцый былога Саюза. Кожнаму сваё.

### РУБЕЛЬ ВЯРТАЕЦЦА

Магчыма, пасля трохтыднёвага тэрміну зняволення, на Беларусі пачалася паступовая „рэабілітацыя" расейскага рубля.

Спасылаючыся на колы, блізкія да нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, газета „Звязда" паведамляе аб прыбыцці партыі расейскіх грошай узору 1993 года на агульную суму 10-15 мільярдаў рублёў.

Гэты факт, калі ён афіцыйна пацвердзіцца, сведчыць не толькі аб ўраўнаванні беларускіх „зайчыкаў" з расейскім рублём, але і аб магчымым абвальным падзенні курса замежных валют.

### ПАЗВАНІ МНЕ, ПАЗВАНІ

У апошні дзень жніўня, можна сцвярджаць, на Беларусі канчаткова была знішчана ідэалагічная „жалезная заслона", што дасталася рэспубліцы ў спадчыну ад сацыялістычных часоў. Адкрылася прамая лінія сувязі паміж Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь і Пентагонам.

Заканамерна, што ўстаноўка спецыяльнага абсталявання ў Менску здзейснена амерыканскім банкам у рамках рэалізацыі законапраекта Нана-Лугара.

Дарэчы, у адпаведнасці з ім ЗША выдзелілі і 59 мільёнаў долараў на яшчэ адну акцыю па раззбраенню — дэмантаж ядзерных установак на тэрыторыі Беларусі і вываз іх у суседнюю Расею.

### ВЕРНЕМСЯ ДА „ТАРАШКЕВІЦЫ"?

Яшчэ паўгода на тэрыторыі Беларусі праіснуюць старыя правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджаныя Акадэміяй навук і Міністэрствам асветы БССР ажно ў 1959 годзе.

Праз гэты тэрмін Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы, на чале якой — старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прафесар Ніл Гілевіч, павінна ўнесці ў Савет Міністраў прапановы аб удакладненні існуючага правапісу беларускай мовы, а таксама падрыхтаваць новы звод правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**




**Redaktor Naczelny „Niwy”**

Szanowny Panie, jeżeli pan świadomie dopuścił do druku „Niwę” nr 34, z dn. 22.08.1993 r., to zhańbił pan tygodnik w oczach Białorusinów żyjących w Polsce i poza granicami kraju. Gdzie jest nasza kultura? Wygląda tak, że można teraz pisać różne wulgarne rzeczy i czasopismo doprowadzić do poziomu gazety brukowej. Być może w ten sposób podnosi się poziom czytelnictwa. Myli się jednak Redaktor Naczelny. Takie plugawe artykuły przynoszą ujmę i hańbę redakcji, a nam czytelnikom nie pozostaje nic innego, jak potępić dziennikarzy, którzy poniżają dobre imię Białorusinów.

Chodzi mi o zamieszczenie w rubryce „**Мы прачыталі**” cytatu z „Polityki” opisującego dialog żony z mężem. Jeżeli jakaś gazeta zamieściła plugawy artykuł, to czy wy musice go przepisywać? Jeżeli nasi dziennikarze to robią, to są chorzy na umyśle i powinni opuścić swoje miejsca pracy i to natychmiast. Czytając ten cytat dostałem wstrząsu nerwowego i musiałem brać środki uspokajające. Sam sobie nie mogłem wyjaśnić, skąd się biorą ludzie bez krzty kultury, ambicji, moralności i szacunku dla innego człowieka, w tym wypadku czytelnika.

Drugi artykuł „**Сардэчныя тайны**” to też hańba. Wiadomo co dzieje się na obozach sportowych. Dlaczego akceptujecie k...stwo i seks w różnych postaciach? „Niwę” czytają ludzie w różnym wieku i o różnym poziomie rozwoju intelektualnego. Tego typu publikacje demoralizują naszą młodzież, czynią ją nieodporną na różnego rodzaju amoralne intrygi.

Proszę mi wybaczyć surowe sądy, ale chociaż pewnie jestem według was człowiekiem staroświeckim, nie mogę jednak pogodzić się z takimi wulgaryzmami w „Niwie”.

Z poważaniem
Stały czytelnik „Niwy”,
**Włodzimierz Klimiuk**

**Ад рэдактара:**

Паважаны спадар Уладзімір Клімюк, нават у галаву нам не прыйшло, што змяшчаючы цытату з „Палітыкі” маглі кагосьці так абурыць. „Палітыка” — гэта адзін з найбольш сур'ёзных часопісаў у Польшчы, а фрагмент артыкула, які мы цытавалі акурат апісваў культуру сучаснай польскай моладзі. Быў гэта фрагмент песні аднаго з рок-гуртоў, які выступаў у Яраціне. Гэтую песню можна пачуць па радыё, паслухаць з касеты або кружэлкі, якія прадаюцца на вуліцы, не гаворачы пра рок-канцэрты, дзе яе спяваюць дзесяткі разоў у прысутнасці дзесяткаў тысяч маладых людзей. Выглядае на гэта, што менавіта моладзь можа толькі нас дэмаралізаваць, а не наадварот. Разумею Вашае абурэнне, але ўявіце сабе, што перажываюць ксяндзы, калі такія песні спяваюцца на мелодыю касцельных гімнаў. Што ж, моладзь ёсць такая, якая ёсць і глядзіць на свет сваімі вачамі. Праўдападобна, калі яны пастарэюць, таксама з абурэннем будуць глядзець на паводзіны наступнага маладога пакалення. Такі ўжо парадак нашага чалавечага жыцця.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

* * *

**Шаноўны рэдактар Яўген Мірановіч, галоўны рэдактар „Нівы”!**

Пішу наконт сустрэчы карэспандэнтаў „Нівы” з рэдакцыйнай калегіяй. На маю думку сустрэчу гэту трэба як найхутчэй арганізаваць у Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Карысць будзе падвойная. Па-першае: некаторыя карэспандэнты і журналісты будуць першы раз у музеі, зматэрыялізаванай думцы беларусаў у Польшчы пад кіраўніцтвам шырокага актыву БГКТ. Па-другое: карэспандэнты, журналісты могуць спаткацца з чытачамі, шырокім актывам нашай меншасці. Калі „Ніва” мае быць газетай усіх беларусаў, давайце будзем яе рэдагаваць супольна.

Пакуль што не толькі я маю заўвагі. Прыклад першы. Сакрат Яновіч — афіцыйны член дэлегацыі прэзідэнта Валэнсы ў Беларусі, хіба па заказу напісаў справаздачу з гэтай паездкі. Бо я веру вашай нататцы з размовы з паслом Беларусі ў Польшчы. Прыклад другі. „Прысутны” ў справаздачы з пабыўкі міністра Закжэўскага і пасла Сянько на Беласточчыне, як палкай па плоце „адбарабаніў”, што гаварыў старшыня Майсеня. Не спадабалася яму таксама дэкарацыя ў зале. Калі б ён больш зацікавіўся, то даведаўся б, што пад гэтымі каляровымі паперкамі вісяць голыя электрычныя правады; на жырандолі ці іншыя лямпы пакуль няма грошай. І напэўна старшыня Сычэўскі свае праблемы выказаў бы на спатканні ў Беластоку, калі б „групоўка” запрасіла яго ў рэдакцыю „Нівы”. А так кіраўніцтва Галоўнага праўлення БГКТ прыехала ў Гайнаўку, каб прадставіць свае (нашыя) праблемы. Нам здавалася, што ўжо будзе нармальна. Чаму вы там у Беластоку не можаце дагаварыцца? Можаце не любіць адзін аднаго, але трэба лічыцца з пасадай, якую сабою прадстаўляеце. Так ёсць ва ўсім свеце, так мае быць і ў нас. Наступная справа — выбары: лічу і не толькі я адзін, што ўсіх кандыдатаў трэба прадставіць дакладна, каб выбаршчыкі мелі магчымасць сапраўды выбіраць. Прапаную, каб усе сродкі масавай інфармацыі аб'явілі свайго роду маратoрый і спынілі нікому непатрэбныя палемікі на час выбараў. Тады і мае заўвагі скароцяцца да мінімума.

**МІХАЛ ГОЛУБ**

**АД РЭДАКТАРА:**

Спадару Міхалу Голубу шчыра дзякую за запрашэнне ў Музей. Хаця ўсе журналісты „Нівы” былі там ужо некалькі разоў, ахвотна паедуць яшчэ раз, калі толькі будзе нагода. З'езда карэспандэнтаў, аднак, арганізаваць у Вас не можам. Падумайце, як бы гэта выглядала, калі б Вы сваіх найбліжэйшых сваякоў запрасілі да сябе ў госці і павялі іх у хату суседа. Нават калі б сусед быў Вашым найлепшым сябрам, аднак не выпадае, каб яго жонка частавала Вас і Вашых гасцей гарбатай. На жаль, не можам пакарыстацца Вашай гасціннасцю, але не менш шчыра запрашаем на з'езд карэспандэнтаў у рэдакцыю „Нівы”.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

* * *

**Паважаны Спадар
Галоўны Рэдактар,**

піша да Вас колішні супрацоўнік „Нівы”. Пасля 48 гадоў я ў роднай Вільні. Паспеў наведаць Лявона Луцкевіча. Мо давядзецца мне больш пра яго, пра беларускія справы горада напісаць, зразумела, у „Ніву”. Ёсць трошкі матэрыялаў. Зараз еду да Хведара Нюнькі, які ў Вільні ўзначальвае беларускі рух. Таксама правяду з ім размову. Мусіць неўзабаве колькі слоў скажу ў беларускай радыёперадачы; прынамсі так хоча спадар Луцкевіч. Яго жонка са мною вучылася ў Беларускай гімназіі (дачка Зоські Верас). У лютым 1994 г.— 75-годдзе заснавання Беларускай гімназіі. Ёсць аб чым пісаць, да чаго вельмі заахвочвае Лявон Луцкевіч. Яго і мой бацька супрацоўнічалі пасля, зразумела, першай сусветнай вайны. Шлю Вам, усім „ніўцам”, самыя сардэчныя прывітанні!

З глыбокай павагай
**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

<u>Фестын у Нарве</u>

## СЁЛЕТА — УДАЛЫ

У мінулым годзе канцэрту беларускіх калектываў перашкодзіў праліўны дождж. Сёлета, у нядзелю, 22 жніўня лепшага надвор'я не магло быць. Беларускі народны фестын у Нарве прайшоў паспяхова. Сам канцэрт гледачы слухалі тры з палавінаю гадзіны. Вялі яго Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко. Мастацкіх калектываў было ўдоволь. Апрача вядомых ансамбляў з Гайнаўскага і Гарадоцкага дамоў культуры, „Чыжавян” з Чыжоў і „Тыневічанак” з Тыневічаў Вялікіх выступіў папулярны гурт „Рэаль” з Крыўца ды замежны хор са Свіслачы. Прыемнае ўражанне зрабілі выступленні дзяцей з Магілёўскай вобласці ды з Ласінкі і Нарвы.

Падчас мерапрыемства праводзілася выбарчая кампанія нашых беларускіх кандыдатаў у паслы і ў сенатары. Са сваёй выбарчай праграмай знаёмілі Ян Сычэўскі, Мікалай Бушко, Яўген Чыквін, Пятро Крук, Сяргей Лукашук.

Як ніколі багаты быў кніжны кірмаш. За столікамі падпісвалі свае кніжкі „белавежцы”: Віктар Швед, Мікалай Гайдук і Янка Целушэцкі.

Усім прысутным за ўдзел у мерапрыемстве і спонсарам за фінансавую дапамогу падзякавалі арганізатары: старшыні — Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі і Гміннай рады ў Нарве Сцяпан Кучынскі ды дырэктар Нараўскага дома культуры Ірэна Шастай. Беларускі фестын у Нарве закончыўся народным гуляннем.

Дык да сустрэчы праз год!

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

<u>Весткі з Белавежы</u>

## АРЫГІНАЛЬНЫ ДАВЕДНІК

Белавежскі мастак, Лех Навацкі, задумаў выдаць арыгінальны даведнік аб найцікавейшых, на яго думку, аб'ектах Белавежскай пушчы. Графікі з іх вывамі ўжо гатовы. Таксама гатовы польскія тэксты са змястоўнай інфармацыяй аб кожным аб'екце. Цяпер мастак шукае перакладчыкаў на англійскую і нямецкую мовы. Яму хочацца, каб па яго альбомчык працягнуў руку і замежны турыст. Калі нішто не памяшае, публікацыю Л. Навацкага будзе можна купіць ужо ў наступным годзе.

Мастак таксама рыхтуе да друку насценны каляндар са сваімі графікамі і серыі паштовак з партрэтамі звяроў.

## УРАЖАННІ З НАРВЕГІІ

Апошнім часам Прыродазнаўчы музей у Белавежы арганізуе часовыя фотавыстаўкі. Вось, у гэтым годзе, можна паглядзець ужо чацвёртую па чарзе. Яе загаловак — „Нарвегія”.

У крыху халодную, з вострымі краявідамі краіну пераносяць гледача чатыры аўтары: Яраслаў Барэйша, Пётр Буланоў, Войцех Фалінскі з Сувалкаў і Анджэй Кэчынскі з Белавежы. На 26-ці каляровых і чорна-белых здымках маладых фатографаў паказаны ваколіцы Тронхейм і Лілехамер, у тым ліку і нацыянальны парк „Рандане”.

Выстаўка будзе адкрыта да 20 верасня г.г. Яе можна наведваць бясплатна, падчас працы музея — у гадзінах 9—15.30.

**П. БАЙКО**

# ІЛЮЗІЯ РЫНАЧНАЙ ГАСПАДАРКІ

☛ *Працяг са стар. 1*

Энергія людзей засяроджваецца на тым, як абмінуць юрыдычныя бар'еры.

Крызіс у Польшчы і іншых постфеадальных дзяржавах кранае перш за ўсё сферу псіхікі. Імправізацыя працы пачынаецца з вярхоўных устаноў улады. Няма права, якое рэгулявала б грамадскае жыццё пры існаванні рынычнай эканомікі. Няма ўрэшце ніякай рыначнай эканомікі, бо няма грамадства, якое магло б яе стварыць. Рабочы перастаў верыць у якіянебудзь змены на лепшае, адчуў сябе здраджаным і абдураным. Селянін дайшоў да вываду, што яму не аплачваецца гадаваць свіней, кароў, араць зямлю, бо атрымоўваецца надта малы прыбытак з продажу сельскагаспадарчых прадуктаў. Настаўнікі, лекары наогул страцілі арыентацыю і не ведаюць, як аднесціся да існуючай рэчаіснасці. Бушуюць толькі ўсялякія жулікі, якім у большым балагане лепш жывецца.

Грамадства гэтае выхоўвалася ў сістэме, у якой усё было простым і зразумелым. Чалавек вучыўся за слесара — стаў слесарам, вучыўся на лекара — працаваў лекарам. Кожны месяц гарантаваная была плата, якая дазваляла мець упэўненасць, што з голаду чалавек не памрэ. Раз у год можна было паехаць на адпачынак, а калі моцна балела галава з-за павышанай дозы алкаголю, знаёмы лекар выпісваў бюлетэнь і даваў пару дзён перапынку ў працы.

Сістэма вызначала кожнаму сваё месца. Чалавек быў адным з элементаў запланаванай грамадскай структуры. Відаць, канструкцыя была не да канца дасканалая, бо развалілася.

Разгубленыя людзі асталіся як беспрытульныя дзеці на вуліцах Санта-Крус. Найгоршае — гэта тое, што ніхто не ведае, як справіцца з гэтым балаганам. Вяртанне ў сацыялізм было б самагубствам, а пабудовы капіталізму можна не вытрымаць сацыялістычнае грамадства.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

## КАНЦЭРТ У СТАРЫМ БЕРАЗОВЕ

Апошні ліпеньскі, суботні дзень быў вельмі прыгожы. У гэты дзень здалі ў карыстанне клуб у Старым Беразове. Усё адбылося паводле цяперашніх правіл. Перарэзаўшы стужку, усе расселіся ў вялікай глядзельнай зале, адспявалі „Многае лета”, а бацюшка пасв[illegible] новазбудаваны клуб. Пасля гэтага распачаўся к[illegible]т. Першымі выступілі заўсёды маладыя „Арэшк[illegible], [illegible]асля — славуты, не толькі на Гайнаўшчыне, але і за мяжою, хор Гайнаўскага дома культуры. Закончыў канцэрт калектыў „Церніца” з Менска. Ну і церніца! Не аднаму сэрца сцерла, не ў адным сэрцы надоўга загнездзілася! Слухаючы песні, гледзячы танцы, не на адным твары можна было заўважыць слязу радасці. Слаўная „Церніца”! Для яе і мікрафон непатрэбны: звонкія галасы яшчэ доўга гучэлі ў вушах беразоўцаў. Апладысментаў гледачы не шкадавалі, а пасля канцэрта падарылі артыстам мноства кветак.

Падчас канцэртных перапынкаў выступалі кандыдаты ў паслы са сваімі праграмамі. Людзям палітыка ўжо надаела, але слухалі, бо слухаць трэба. Ці паверылі яны, аднак, абяцанням кандыдатаў? Так, паверылі, як вераць прагнозам надвор'я. Найболей спадабалася гаворка Мікалая Бушко з Гайнаўскага дома культуры, які сказаў, што будзе нашых беларускіх спраў пільнаваць, але абяцаць нічога не будзе, бо адзін чалавек і так нічога не зменіць.

Прыгожы быў канцэрт, так як прыгожы новы клуб. Прыйшло і прыехала мноства народу, таму што падобнай падзеі яшчэ ў нас не было. Слаўна людзі пагасцявалі і патанцавалі, аднак аб гэтым напішу іншым разам. Ведаеце, часу замнога няма, жніво на вёсцы, за камбайнам хадзіць трэба. Уручную жаць ніхто не ўмее, бо старыя развучыліся ды і, праўду кажучы, тэхнікі да ручнога жацця няма. Усё новае і новае, толькі мы старэем.

**ГРЫША МАРОЗ**

# ВЫРВАЦЦА З ЗАНЯПАДУ

**Размова з доктарам АНТОНАМ МІРАНОВІЧАМ, кандыдатам са спіска № 25 Беларускага саюза на выбары ў Сейм**

**„НІВА"**: — *Да гэтай пары Вы былі вядомыя нашаму асяроддзю як навуковец, даследнік гісторыі Праваслаўнай Царквы. У гэтым годзе Вы выступаеце на выбарах у Сейм са спіска Беларускага саюза па рэкамендацыі Праваслаўнага брацтва імя Кірылы і Мяфодзія. Скажыце, якія прычыны вырашылі, што Вы пастанавілі заняцца палітычнай дзейнасцю?*

**АНТОН МІРАНОВІЧ**: — На гэта склаліся тры галоўныя прычыны. Упершыню ўсе беларускія і праваслаўныя арганізацыі ідуць на выбары разам, аб'яднаныя на адным выбарчым спіску. Па-другое, з многіх арганізацый былі прапановы ў мой бок, каб я паставіў сваё прозвішча на чале гэтага супольнага спіска. І па-трэцяе — я асабіста акцэптую праграму нашага выбарчага камітэта, якая мае за мэту, агульна кажучы, абарону інтарэсаў Царквы і беларускага асяроддзя.

— *Якія інтарэсы Праваслаўнай Царквы трэба будзе абараняць у найбліжэйшы час, не толькі на форуме парламента, але ўвогуле ў грамадска-палітычным жыцці ў Польшчы?*

— Перш за ўсё тыя, якія фармальна загарантаваныя сеймавым законам аб дачыненнях дзяржавы і Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Трэба паспрыяць, каб уся тая маёмасць, якая раней была ўласнасцю Царквы, была Ёй звернута. Па-другое, усё яшчэ існуе пагроза, што не ўсе веравызнанні ў Польшчы будуць трактаваны раўнапраўна. У грамадска-палітычным жыцці на першы план выступае Каталіцкі Касцёл ці, кажучы агульней, каталіцкая частка польскага грамадства. Трэба адстойваць роўныя правы для ўсіх веравызнанняў і іх вернікаў у Польшчы.

— *Ці для праваслаўных у Польшчы закон аб дачыненнях дзяржавы і Царквы поўных правоў не забяспечвае?*

— З юрыдычнага пункту гледжання — так. Але на практыцы бачым штосьці адваротнае. Прыклад Супрасльскай лаўры наяўна паказвае, якое веравызнанне мае вырашальны голас у інтэрпрэтацыі тых правоў. Каталіцкі Касцёл атрымлівае практычна ўсю тую маёмасць, якая была яму незаконна адабраная дзяржавай. А наша Царква, клапоцячыся пра зварот усяе маёмасці ў Супраслі, сутыкаецца з рашучым супраціўам Касцёла. Аказваецца, што закон — гэта адно, а ажыццяўленне гэтага закону ў Польшчы — гэта зусім іншае.

— *Звернемся да гаспадарчай часткі праграмы выбарчага камітэта Беларускага саюза. Як Вы ацэньваеце гаспадарчы стан Усходняй Беласточчыны?*

— Польскія ўрады, ці былі яны камуністычныя, ці, ад некалькіх гадоў, дэмакратычныя, звярталі большую ўвагу на заходнюю частку Беласточчыны. Дайшло да такой дыспрапорцыі ў гаспадарчым і цывілізацыйным развіцці ўсходніх гмінаў нашага ваяводства, што можна гаварыць аб цывілізацыйнай дэгенерацыі Усходняй Беласточчыны. Упершыню загаварылі аб гэтым незалежныя беларускія палітыкі пару гадамі назад, звяртаючы ўвагу грамадскасці на тое, што перыяд сацыялістычнай Польшчы давёў беларускі этнас на Беласточчыне фактычна на грань гаспадарчай і нацыянальнай катастрофы. На жаль, і ў цяперашнім працэсе палітычна-эканамічных пераўтварэнняў у краіне цэнтральныя ўлады не звяртаюць большай увагі на гаспадарчыя цяжкасці „усходняй сцяны"... Адной з мэтаў будучага пасла з Усходняй Беласточчыны павінна быць змаганне якраз за ўраўнаванне шанцаў гаспадарчага развіцця ўсходняй і заходняй частак нашага рэгіёна.

— *А якія ініцыятывы могуць такія шанцы стварыць?*

— Такія шанцы магло б стварыць развіццё прыватнага прадпрымальніцтва ў нашых гмінах. Дзеля гэтага патрэбна адпаведная палітыка падаткавых абкладанняў, якая давала б ільготы для развіцця прадпрымальніцтва ў рэгіёнах асаблівага гаспадарчага занепаду. Другі накірунак выхаду з гаспадарчага застою — пошук гандлёвых і эканамічных кантактаў з партнёрамі па другі бок дзяржаўнай мяжы, у Рэспубліцы Беларусь. Трэці шанц трэба шукаць ва ўласнай самаарганізацыі. Трэба абавязкова вярнуцца да ідэі гміннага саюза Усходняй Беласточчыны і апрацавання агульнай для паўтара дзесятка гмінаў „усходняй сцяны" гаспадарчай стратэгіі, таму што сродкамі аднае гміны цяжка не толькі палепшыць матэрыяльную сітуацыю людзей, але нават утрымацца на цяперашнім узроўні эканамічнага гібення.

— *А што ў сітуацыі рыначнай эканомікі і дэцэнтралізацыі ўсяляких гаспадарчых адносін магла б зрабіць цэнтральная ўлада дзеля паляпшэння лёсу гмінаў Усходняй Беласточчыны?*

— Яны маглі б спрычыніцца да памяншэння беспрацоўя ў нашых гмінах арганізаваннем так званых публічных работаў, накіраваных на пабудову сеткі дарог ці іншай цывілізацыйнай інфраструктуры, якой няма ва ўсходняй частцы ваяводства. Такія публічныя работы павінны арганізавацца перш за ўсё на „ўсходняй сцяне", дзе лік беспрацоўных, у працэнтавым вылічэнні, больш, чым у заходняй частцы рэгіёна. Але дзеля гэтага трэба, каб мясцовыя ўлады, і гмінныя, і ваяводскія правілі са свайго боку выразную актыўнасць, патрабуючы якраз такой урадавай дапамогі. Пакуль што, такой мясцовай актыўнасці няма. Я лічу, што пакуль беларусы не будуць мець сваіх прадстаўнікоў у ваяводскіх уладах, то таксама не дачакаюцца дапамогі ад ваяводскага бюджэту. Значыць, наша палітычная актыўнасць у парламенцкіх выбарах — несумненна патрэбная і карысная, але, бадай, ці не важнейшай для эканамічнай будучыні свайго рэгіёна з'яўляецца актыўнасць у мясцовым палітычным жыцці, канкрэтна кажучы, у выбарах у гмінныя і гарадскія органы самакіравання.

— *Як Вамі бачыцца роля беларускай культуры ў жыцці нашага рэгіёна?*

—Беларуская культура павінна заняць у нашым рэгіёне месца раўнапраўнае з польскай. Культура — адна, нягледзячы на нацыянальныя своеасаблівасці яе носьбітаў. Часта нам кажуць, што мы, беларусы, ізалюемся, ствараючы сваё замкнутае беларускае гета, у якім месцяцца і праявы нашай культурнай актыўнасці. Але не прыкмячаюць пры тым, што менавіта польскія ўлады ствараюць такое гета, пакідаючы справу развіцця беларускай культуры сілам беларускіх арганізацый і марным датацыям з дзяржаўнага бюджэту. Што можа зрабіць, прыкладам, БГКТ з пару штатамі і грашамі, якіх хапае толькі на які дзясятак імпрэзаў народна-фальклорнага характару? Пры гэткім стане культурнай палітыкі, які маем цяпер, мы ніколі не выйдзем з культурніцкага запаведніка, які, нягледзячы на свае памеры, усё будзе заставацца збоч жывой прысутнасці культуры ў жыцці людзей нашага рэгіёна, палякаў і беларусаў. Я думаю, што даўно ўжо наспела да ажыццяўлення ідэя Цэнтра беларускай культуры ў Беластоку, як дзяржаўнай установы, падпарадкаванай адно ўрадаваму ведамству, у якой справы развіцця беларускай культуры будуць пастаўленыя на ўзроўні, які загарантуе прафесіяналізм у культурнай беларускай дзейнасці і справядлівы падзел сродкаў з дзяржаўнага (і ваяводскага) бюджэту. Усе мы плацім падаткі і павінны дамагацца, каб з іх вылічалася справядлівая сума на развіццё культуры беластоцкіх беларусаў, грамадзян Рэчы Паспалітай. А цяпер мы маем не болей, чым міласціну, якая і спіхвае нас у культурніцкі запаведнік.

— *На заканчэнне пытанне да Вас як да навукоўца, даследніка праблемаў праваслаўна-беларускага асяроддзя. Як Вы ацэньваеце такую сітуацыю, калі ў Беластоку ўсе намаганні беларускіх навукоўцаў стварыць самастойную даследніцкую ўстанову (Беларускі інстытут або беларускую філалогію) зводзяцца да нуля, падчас калі беспераШкодна могуць узнікаць аддзяленні беларусістыкі ў Любліне або ў Кракаве?*

— Я ў гэтым бачу вялікую непрыхільнасць мясцовага польскага навуковага асяроддзя, якое пакуль што паспяхова затармоўвае беларускія ініцыятывы ў гэтым накірунку. Нават пры згодзе і падтрымцы палітычных чыннікаў заўсёды знаходзяцца на месцы нейкія фармальныя або фінансавыя перашкоды на гэтым шляху. Рэч тут ідзе аб утрыманні чатырох-пяці штатаў навуковых супрацоўнікаў, якія маглі б запачаткаваць такую навуковую ўстанову, арыентаваную на беларусазнаўства. Беларусы Беласточчыны даўно ўжо выплацілі і пераплацілі падаткі, з якіх можна ўтрымаць такі Беларускі інстытут. А інтэлектуальна беларускае асяроддзе падрыхтаванае настолькі, каб запэўніць такому інстытуту высокі навуковы ранг. Дый шмат выдатных навукоўцаў з польскага асяроддзя дэклaруе ахвоту працаваць у такой беларусазнаўчай установе ў Беластоку. Але вось мясцовае навуковае асяроддзе не дае ходу такой ініцыятыве. Іншага выхаду, відаць, няма, як пастарацца паўплываць зверху, гэта значыць, з Варшавы. Гэта таксама заданне для беларускага прадстаўніка ў парламенце.

—*Шчыры дзякуй за размову.*

**Размову вёў
Ян МАКСІМЮК**

## ЦІ ДАЖЫВЕ ДА ЗІМЫ БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ?

Вось ужо сапраўды адна бяда ніколі не ходзіць. Не паспела Беларусь акрыяць ад ліпеньскай паводкі, у выніку якой была затоплена трэць тэрыторыі рэспублікі, як здарылася новае няшчасце — энергетычны крызіс.

Спасылаючыся на нашу вялікую запазычанасць (дзесьці каля 200 мільёнаў долараў) Расея раптоўна спыніла экспарт нафты і газу на Беларусь. А паколькі запасаў гэтых энерганосьбітаў у рэспубліцы амаль не было, то рэальна ўзнікла пагроза спынення прадпрыемстваў, а таксама голаду. Бо падчас жніва без паліва, як вядома, хлеб немагчыма ні сабраць, ні высушыць.

Праўда, пасля візіту ў Маскву ўрадавай дэлегацыі, расейскі прэм'ер Чарнамырдзін абяцаў выдзеліць да канца года пяць мільёнаў тон нафты. Але гэтага вельмі мала, каб наталіць паліўны апетыт прамысловасці і транспарту.

Дарэчы, зараз з-за недахопу паліва ўжо спыніліся больш трыццаці прадпрыемстваў рэспублікі, астатнія працуюць усяго па некалькі дзён на тыдзень.

Урад ліхаманкава шукае крэдыты, каб сплаціць запазычанасць за газ. Расея нібыта згадзілася выдзеліць некалькі дзесяткаў мільярдаў рублёў, але гэта пакуль толькі абяцанні. А таму энергетычны голад у Беларусі працягваецца. З мэтай эканоміі электраэнергіі ў гарадах адключана светлавая рэклама, вулічныя ліхтары. Гарачая вада ў кватэры жыхароў рэспублікі амаль не падаецца. Увогуле, калі Масква тэрмінова не зніме сваю прагматычную блакаду, то праз месяц многія гарады Беларусі будуць без электраэнергіі і цяпла. Спыняцца вялікія і маленькія прадпрыемствы. Падобная сітуацыя, дарэчы, назіралася мінулай зімой у Прыбалтыцы. Але з энергетычнага крызісу нашы суседзі знайшлі даволі простае выйсце — вызвалілі цэны на энерганосьбіты і дазволілі камерцыйным фірмам гандляваць нафтай і іншымі відамі паліва. Сёння, напрыклад, бензін у Літве таннейшы, чым у Беларусі. Прычым, купляць яго ў Літве можна без ніякіх праблемаў, а на беларускіх запраўках — шматкіламетровыя аўтамабільныя чэргі. Аднак, нягледзячы на такі яскравы прыклад, урад Беларусі не спяшаецца адмаўляцца ад бензінавай манаполіі, бо страціўшы правы на размеркаванне нафтапрадуктаў, саўмінаўскія чыноўнікі не будуць мець цяперашняй магутнасці.

Апроч таго (вось парадокс!) у Беларусі квітнее падпольны і легальны рээкспарт нафтапрадуктаў за мяжу. Вельмі выгадны бізнес. І тыя, хто ім займаецца маюць агромністыя прыбыткі. Словам, паліўны крызіс, які ўспыхнуў сёлета ў рэспубліцы — не выпадковасць, а, хутчэй, заканамернасць. Гэта вынік не вельмі разумнай палітыкі Савета Міністраў рэспублікі.

Зрэшты, зараз кіраўнікі ўрада, не жадаючы прызнаць банкруцтва сваёй эканамічнай палітыкі, спрабуюць абвінаваціць у энергетычным крызісе тых, хто развaліў Савецкі Саюз. Прадстаўнікі магутнага ўрадавага лобі ў парламенце нават плануюць вынесці на разгляд чарговай сесіі пытанне аб дэнансацыі белавежскіх пагадненняў. І ўсё часцей і часцей апошнім часам з вуснаў уплывовых урадавых чыноўнікаў гучаць размовы аб неабходнасці далучэння да Расеі. Карацей, усё як у былыя камуністычныя часы. Хто ведае, магчыма, менавіта на гэта і разлічвалі маскоўскія палітыкі, закручваючы кран газа і нафтапрадуктаў труб, што вядуць у Беларусь?

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**




*Малюнак А. Шавеля ("Вожык")*

# УМЕЕМ ЖЫЦЬ У ЗГОДЗЕ

*ЯЎГЕН ЧЫКВІН — кандыдат Выбарчага камітэта праваслаўных у Сенат Рэчыпаспалітай Польшчы. Галоўны рэдактар „Przeglądu Prawosławnego", адзін з заснавальнікаў і старшыня ў 1981-85 гадах Брацтва праваслаўнай моладзі, 43 гады, абсальвент Варшаўскай палітэхнікі, жонка Альжбета, навуковы працаўнік Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, дзеці: Міхась, Юрка, Марыся. За ахвярную працу для Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, асабліва за вялікі ўклад у справу прыняцця Сеймам Рэчыпаспалітай Закону аб адносінах Дзяржавы да Праваслаўнай Царквы, адзначаны Ордэнам св. св. Роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія I ступені, лаўрэат узнагароды імя св. Брата Альберта.*

Шаноўныя Чытачы „Нівы"!

Звяртаюся да Вас з просьбай прагаласаваць за маю кандыдатуру на сенатара Рэчыпаспалітай Польшчы.

Дагэтуль у Сейме я стараўся годна прадстаўляць маіх выбаршчыкаў. Дбаў я перш за ўсё пра гарантыю нам, праваслаўным грамадзянам Польшчы, такіх правоў, якімі карыстаюцца у нашай краіне каталікі. Таму так многа часу і высілку прысвяціў я справе прыняцця Сеймам Закону аб адносінах Дзяржавы да нашае Царквы. Сёння неабходны кантроль яго выканання, бо не ўсё запісанае ў Законе выконваецца Урадам. Дагэтуль не вернуты нам усе будынкі Супрасльскай лаўры, не маем доступу да цэнтральнага радыё і тэлебачання, ёсць спробы захапіць маёмасць Царквы (могільнік у Яблачыне).

Многа разоў з трыбуны Сейма я прадстаўляў эканамічны заняпад нашай „Малой радзімы", якую некаторыя завуць „усходняй сцяной". У выступленнях, інтэрпеляцыях, размовах з чарговымі прэм'ерамі Тадэўшам Мазавецкім, Янам Альшэўскім і Ганнай Сухоцкай, а таксама з міністрамі я звяртаў іхнюю ўвагу на тое, што неабходна аднолькава і справядліва адносіцца да ўсіх грамадзян незалежна ад іх веравызнання ці нацыянальнасці.

Як адзін-адзіны беларус у Сейме дамагаўся я годнага месца і варункаў развіццю культуры і асветы нацыянальных меншасцяў, у першую чаргу — беларусаў, украінцаў, лэмкаў. У выніку была значна павялічана дзяржаўная датацыя (да звыш 11 міліярдаў зл. у бягучым годзе) на культуру нацыянальных меншасцяў.

Цяпер галоўным сваім абавязкам, калі буду выбраны сенатарам, стаўлю змаганне супраць беспрацоўя, далейшага пагаршэння варункаў жыцця на вёсцы і ў горадзе, абцяжарванне коштамі рэформ найбяднейшага насельніцтва — рэнцістаў, пенсіянераў, рабочых і сялян. Заўсёды я супрацьўляюся намераному нішчэнню дзяржаўнай прамысловасці і парыванню гаспадарчых сувязей з краінамі былога СССР. Гэтае аднаўленне супрацоўніцтва з Усходняй Еўропай — гэта шанц для польскай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Мы, як нацыянальна-рэлігійная меншасць, можам быць у гэтай справе моцна прыдатнымі.

Мы, праваслаўныя, умеем жыць у згодзе з усімі людзьмі добрай волі. Не ацэньваем людзей паводле іх рэлігіі ці нацыянальнасці. Мы старанна выконваем нашы абавязкі перад Дзяржавай, у развіццё якой унеслі і ўносім немалы ўклад. Шануем веру, культуру і традыцыі іншых. Хочам, каб таксама іншыя адносіліся да нас: каб шанавалі нашу мову, веру, культуру, каб трагедыя Грабаркі ніколі не паўтарылася.

Такая, у вялікім скарачэнні, мая праграма. Мне добра вядомы магчымасці адзінокага пасла ці сенатара, яны надта ж абмежаваныя, але я маю вопыт і „пракладзеныя" шляхі ў вялікай палітыцы. Таксама ведаю, што кожная палітычная групоўка ажыццяўляе свае планы і мэты, якія не заўсёды карысныя для нашай грамадскасці. Таму хачу быць адказным толькі перад маімі выбаршчыкамі, быць незалежным сенатарам — так буду паступаць у будучыні.

Добра ведаю наш рэгіён і патрэбы маіх выбаршчыкаў. Тут я нарадзіўся, жыву і хачу Вам служыць.

Кожны з Вас, Шаноўныя, будзе мець магчымасць выбраць свайго кандыдата з адзінаццаці кандыдуючых у Сенат і многіх у Сейм. Маю надзею, што даверыцеся мне і паставіце знак X пры маім прозвішчы **Eugeniusz Czykwin, kandydat Komitetu Wyborczego Prawosławnych (nr 3 na spisku).**

Сардэчна дзякую за Вашую падтрымку.

З пашанаю да Вас —

**ЯЎГЕН ЧЫКВІН**

## З ДРУКУ

**З ДРУКУ: Ніжэй прыводзім фрагмент інтэрв'ю Міхася Белямука з епіскапам Наваградскім і Лідскім Канстанцінам, якое пад загалоўкам „ПАСТУПОВА МЫ ВЫХАВАЕМ СВАЕ КАДРЫ" друкавалася ў часопісе „Полацак".**

* * *

*— Уладыка, Вы зьўляецеся япіскапам Наваградзкім і Лідзкім. Як ідуць справы ў Вашай япархіі?*

— Наваградзкая япіскопія абьядноўвае 9 раёнаў Горадзенскай вобласьці. У япархіі 80 прыходаў. На жаль, мы замала маем сьвятароў і прыходзіцца аднаму сьвятару абслугоўваць два, часам і тры прыходы. Маем мы сьвятароў і без багаслоўскай асьветы. Пры нашай сэмінарыі адкрыты курсы завочнага абучэньня. На завочным аддзяленьні вучыцца 125 сэмінарыстаў, такім чынам, мы спадзяемся, што за пару гадоў праблема духавенства ўнармуецца. Аднак за апошнія гады зьявілася новая праблема. І разьвязка яе вельмі складаная. Вось пару прыкладаў. У Астравецкім р-не функцыянуе 12 каталіцкіх касьцёлаў, але не было ніводнае праваслаўнае царквы. Калі людзі, праваслаўныя беларусы, задумалі арганізаваць праваслаўны прыход, мы сустрэліся зь вялікімі непрыемнасьцямі. Сьвецкая адміністрацыя пагаджалася зарэгістраваць праваслаўны прыход, але супроць нас, праваслаўных беларусаў, выступіла каталіцкае духавенства, якое прапаведуе пальшчызну. З такімі-ж праблемамі сустракаемся ў іншых раёнах Горадзенскай вобласьці. З Польшчы прыслалі ў Горадзенскую воб. некалькі дзесяткаў ксяндзоў, манашак і місыянераў. Гэтая місыянерская праца мае прапольскі характар, адкрыта вядзецца антыбеларуская акцыя. І дзіўна, мясцовыя ўлады талеруюць, падтрымоўваюць польскі каталіцызм, даюць дапамогу, а нас, карэнных беларускіх праваслаўных жыхароў, прыціскаюць.

*— Ці ёсьць у Вашай япархіі цэрквы і царкоўныя будынкі, ня зьвернутыя яшчэ дзяржавай?*

— У Наваградку побач сабору знаходзіцца царкоўны будынак, каторы царква пабудавала ў мінулым стагодзьдзі. Ён быў забраны і ня зьвернуты царкве і сёньня. Такім чынам, мне як япархіяльнаму япіскапу няма дзе прыпыніцца, пераначаваць. У мяне акрамя сабору ў Наваградку ніякай маёмасьці няма. Я ня маю канцылярыі, я ня маю пакойчыку для архіву, няма спальнай і прыёмнай. Будзь я каталіцкі біскуп мне аддалі-б будынак, мяне-б з пашанай прыймалі ўсюль. Раскажу вам пра нашую праваслаўную парафію ў Лідзе. Насельніцтва Ліды дзеліцца пораўну: 50% праваслаўных і 50% католікаў. Католікі маюць два даволі вялікія касьцёлы, праваслаўныя на могілках невялічкую цэркаўку, у якой можа зьмясьціцца 80—90 вернікаў. Улетку вялікіх праблемаў няма. Пастаўленыя галасьнікі і веруючыя слухаюць богаслужэньне па-за царквой. Прыходзіць восень, дажджлівыя дні, прыходзіць зіма з марозамі, і ўзьнікаюць праблемы. А тым часам у горадзе маецца вялікая царква, пабудаваная праваслаўнымі ў 1863 годзе. Гэтую царкву Архістратыга Міхаіла забралі і зрабілі зь яе плянетарый. Я зьвярнуўся да гарадзкой адміністрацыі, каб царкву нам зьвярнулі. Гарадзкія ўлады пагадзіліся, але каталікі даведаліся і запратэставалі. Узначальвае гэтых пратэстуючых католікаў ксёндз Станіслаў Роек. Ён паведаміў гарадзкія ўлады, што зь перадачай царквы праваслаўным пачнуцца дэманстрацыі, забастоўкі на прадпрыемствах, падымуцца беспарадкі і калі гэта не дапаможа, то царкву спаляць. Я вырашыў запрасіць каталіцкае духавенства на перамовы ў Ліду. Каталіцкае духавенства ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч з Горадні. Мы перад спатканьнем дамовіліся, што спатканьне павінна адбыцца бяз розгаласу, каб не было зборышча праваслаўных і католікаў каля гарадзкой ратушы. Мы дамоўленасьць вытрымалі, каталікі сабралі натоўп людзей. Мае перамовы з каталіцкім біскупам і духавенствам вынікаў не далі, яны нам забаранілі мець праваслаўныя храмы ў Лідзе. Калі я выйшаў з ратушы, каталікі абражалі мяне вульгарнымі словамі, дзёргалі за вопратку. Амаль побач са мной ішоў біскуп Аляксандр Кашкевіч і група ксяндзоў, пасьміхаючыся. Ніхто зь іх слова не сказаў, каб спыніць натоўп, спыніць абразы праваслаўнага духавенства і мяне як ярарха, рэктара сэмінарыі. Калі я прарваўся праз натоўп да аўта, па ім пачалі біць парасонамі, абкідаць брудам. Вось гэтакія адносіны да нас, праваслаўных, у Рэспубліцы Беларусь, у дзяржаве зь вялікай большась[illegible]аваслаўных.

*— А ці пра[illegible]зіцца ў каталіцкіх касьцёлах Вашае япархіі беларусізацыя?*

— У касьцёлах ніякай беларусізацыі няма. У іх самая актыўная паланізацыя. У касьцёлах вісяць польскія дзяржаўныя сьцягі, вісяць партрэты польскіх палітычных дзеячоў як Валенса. Тут сьвяткуюць польскія сьвяты, як Дзень польскага жаўнера, Арміі Краёвай, і адкрыта ксяндзы гавораць, што мы пастаўім польскія стаўбы па Стоўбцы.

**Полацак** н-р 3(23), 1993
Кліўленд, ЗША.

*СЭРАФІН КОРЧАК-МІХАЛЕЎСКІ*

**ПРУЖАНСКІЯ КОНІ**

Былі ж тут коні
фінскія
яцвяжскія
рускія
літоўскія
польскія
татарскія
шведскія
нямецкія
ды савецкія.

Ішлі тут яны
дывізіёнамі
ішлі яны
брыгадамі
ды армадамі
ішлі яны за
крыжамі
бунчукамі
арламі
ды звяздамі.

Іх праклінали
іх катавалі
лазінамі
дубінамі
батагамі
ды канчугамі.

Ім грывы зноў часалі
ім цукру зноў давалі
ім збруі шыкавалі
ім морды... цалавалі.

Ішлі тут коні
белыя
шэрыя
гнядыя
ды вараныя.

Ішлі тут коні
папоўскія
і жыдоўскія
казацкія
і хахлацкія
сялянскія
дык і панскія.

Колькі ж тут было
галоў?
Колькі тут было
падкоў?

Вось табе й знак.
Калі маланкі
громам капытаў
ударацць у зямлю
ў тваю сенажаць,
глянь у неба,
п а ч у й:

Там хмары коней
цябе ж клічуць.
Да цябе ж
ціханька
ціха
іржаць!

# СУМНЫ СПАС СУПРАСЛЬСКАЙ БОЖАЙ МАЦІ

☛ Працяг са стар. 1



царкву на службу, аднак дзвярэй адчыніць не змаглі. Пайшлі ўкругавую і ўбачылі, што ізноў тут былі зладзеі. З боку алтара вокны былі адчыненыя, шыбы павыбіваныя. Выклікалі паліцыю — супрасльскую і беластоцкую. Яны ўсё агледзелі, пачалі следства. Як дастацца ў царкву? — Дзверы, што вялі з манастыра ў царкву, былі заблакаваны ад сярэдзіны царквы. Быў усунуты ў іх нейкі ключ. Паліцыя адчыніла іх — і перад вачыма манахаў прадстала абдзертая з усіх аздобаў, дараў людскіх сэрцаў — ікона Супрасльскай Божай Маці. Усё, што калісьці вісела на спецыяльнай мацоўцы за шклом — золата, серабро, розныя крыжыкі, ланцужкі, пярсцёнкі, шляхетныя і паўшляхетныя камяні — зладзеі, падняўшы шкло, забралі. Дары былі розныя — багатыя і менш багатыя, а нават цалкам сімвалічныя, але ўсе яны былі дадзены ў парыве людской дабрыні і ахвярнасці. Крыўда душыла манахаў — у іх царкве зладзеі гаспадарылі, як у сябе ў хаце, што хацелі — тое бралі, перастаўлялі, кранали святыя рэчы бандыцкімі лапамі, тапталі бруднымі ботамі царкоўную падлогу. І крыўдна было больш з прычыны духоўных страт, не матэрыяльных. Людзі ізноў прынясуць, напэўна! Добра, што хоць нічога ў царкве не знішчылі, не спрафанавалі — пацяшалі сябе.

І яшчэ было прыкра, што перад ад'ездам на Грабарку прыхаджане не змаглі пабыць на малебне. Аўтобус стаяў і чакаў іх, а яны, расчараваныя і знерваваныя, глядзелі, што будзе. І паехалі, так і не памаліўшыся ў сваёй царкве, на святую гару.

Ну, што ж, айцу архімандрыту Мірону было яшчэ больш прыкра. Ён вымушаны быў застацца ў манастыры з паліцыяй.

* * *

Ужо ізноў людзі вешаюць на ікону Супрасльскай Божай Маці дары сваіх сэрцаў. І будзе іх, бадай, усё больш. У царкве ўстаноўлены начныя дзяжурствы манахаў. Штоноч пільнуюць яны царкву ў сярэдзіне.

А следства працягваецца. Каму гэта ізноў свярбелі рукі на чужое? — гэтае пытанне не дае спакою манахам. У Супрасльскім Свята-Благавешчанскім мужчынскім манастыры, ды і не толькі там, чакаюць ад паліцыі добрых вестак.

**АДА ЧАЧУГА**

# НАВУЧАЛЬНЫ ГОД ПАЧАЎСЯ...

...са скасавання аднае школы і дванаццаці філіяльных пунктаў у нашым ваяводстве. Прычынай закрыцця філіяльных пунктаў, сказаў віцэ-куратар асветы ў Беластоку Ян Замбжыцкі, была малая колькасць вучняў -- наогул менш за дзесяцёра дзетак. Дзеці з філіялаў перайшлі вучыцца ў суседнія большыя школы. Напрыклад, прычынай закрыцця школы ў Пашкоўшчыне была з аднаго боку малая колькасць вучняў, а з другога факт, што з мінулай зімы школа ў Орлі працуе ў новым будынку, які і прыняў вучняў з Пашкоўшчыны. Пераход вучняў у Орлю, адзначыў віцэ-куратар, быў узгоднены з тэрытарыяльным самаўрадам.

Гмінным самаўрадам, дарэчы, Кураторыя асветы і мае абавязак да 1 студзеня 1994 года перадаць усе пачатковыя школы. У гэты момант, сказаў Я. Замбжыцкі, самаўрадавае школьніцтва існуе ў чатырох гмінах: Васількаў, Вышкі, Карыцін і Нарва. Пачатковыя школы ў гэтых гмінах перайшлі пад апеку тэрытарыяльных самаўрадаў з ініцыятывы саміх гмін. Агулам пачатковых школ у Беластоцкім ваяводстве, якія Кураторыя мае перадаць гмінам -- 334. Працэс іх перадачы, у залежнасці ад гміны, ідзе па-рознаму -- адзначыў віцэ-куратар. Кураторыя асветы ў пастаяннай лучнасці з самаўрадамі -- дзеля вырашэння гэтага пытання ствараюцца супольныя камісіі. Ці фактычна аднак у так кароткім тэрміне ўдасца перавесці ўсе пачатковыя школы на ўтрыманне гмінных самаўрадаў? Трэба тут зразумець, адзначыў Я. Замбжыцкі, што школы не пераходзяць на ўтрыманне гмін у даслоўным значэнні, бо тыя сродкі, якія Міністэрства нацыянальнай адукацыі адводзіла дагэтуль на школы за пасрэдніцтвам кураторый, цяпер дастанецца гмінам. У аснове ўсяго працэсу -- пераканане, што гміна, якая знаходзіцца бліжэй школы, лепш гэтымі сродкамі будзе гаспадарыць.

Варта ў гэтым месцы звярнуць яшчэ ўвагу на некаторае несупадзенне падзелу тэрыторыі на гміны з асветнымі акругамі. На пытанне, ці здараюцца выпадкі змагання паміж войтамі за школьную моладзь, а пасрэдна і за міністэрскую датацыю, віцэ-куратар згадзіўся, што, фактычна, сітуацыі такія бываюць. Бракуе, аднак, пакуль дэталёвых выканаўчых законаў, якія б вырашылі, каму ў такім выпадку прызначыць датацыю -- гміне, на тэрыторыі якой стаіць будынак школы, ці гміне, з якой у тую ж школу ходзяць дзеці? Магчымыя тут розныя развязкі.

На адкрыццё навучальнага года 1993/94 "Ніва" заехала ў Ласінку. Тамашняя школа памяшчаецца ў звычайным вясковым будынку, а дакладней кажучы -- у двух будынках. Пахла ў іх фарбай. На канікулах школа правяла ў іх рамонт. Рамонт гэты, сказала дырэктарка школы Вера Дудзіч, ніколі не быў бы магчымым, калі б не дапамога бацькоў. У абодвух школьных будынках агулам сем залаў. Адна з іх, на паверсе, прызначана на бібліятэку. Навука ў школе вядзецца ў злучаных класах -- II-III, IV-V, VI-VII. Асобна вучацца толькі I і VIII класы. У школу ў Ласінцы, акрамя мясцовых дзяцей (іх 32), ходзяць яшчэ дзеці з Кутавой, Катлоўкі, Кавелы, Навін, Рэпіскаў, Уснаршчыны і Гарадзіска. Усіх вучняў -- 75. Настаўнікаў -- дзевяць. Хто з нас што выкладае -- няварта пісаць, казалі. Як то ў вясковай школе -- па некалькі прадметаў на аднаго. Ад сябе ўжо дадам, што беларускай мове навучаюць Яўген Абрамюк (ён фізік па адукацыі) і Валянціна Базылюк. Беларускую мову ў Ласінцы вывучаюць, пачынаючы з другога класа, усе дзеці. Няма ў нас, адзначае дырэктарка, спецыяліста па гэтым прадмеце. Хаця і няцяжка сёння знайсці выпускніка беларускай філалогіі, які шукае працу, то няма ў нас магчымасці прыняць яго на поўную стаўку, сцвердзіла спадарыня Вера Дудзіч.

Васьмікласнікі, запытаныя пра канікулы, не квапіліся са сваімі расказамі. От, надвор'е не спрыяла, каб кудысьці выехаць або нечым пазаймацца акрамя дапамогі бацькам у полі. Наогул аднак аказаліся гаваркімі. Шмат гаварылі пра школу і свае намеры ў будучым. Пару асоб пасля заканчэння "падставоўкі" намервaецца пайсці ў Беларускі ліцэй у Гайнаўку. Абставіны тут ім як бы паспрыялі -- праз год часу, трэба спадзявацца, будынак гайнаўскага ліцэя будзе "на цацы" зроблены. Пра сваіх цяперашніх настаўнікаў кажуць, што часамі бываюць надта строгімі.

Адкрыццё навучальнага 1993/94 года ў Ласінцы мела больш фармальны, чымсьці ўрачысты характар. Усе вучні і настаўнікі сабраліся ў адной зале ды выслухалі прамову міністра нацыянальнай адукацыі З. Флісоўскага, які запэўніў, што прыкладзе намаганняў, каб вывесці асвету ў краіне на належны ёй узровень. Пасля прамовы міністра са словам выступіла дырэктарка школы, якая, прывітаўшы вучняў і настаўнікаў, папрасіла гэтых першых шанаваць на працягу навучальнага года адноўленую школу, працу сваіх бацькоў. Пэўна ж пасля выступлення дырэктаркі ўсе разыйшліся б да сваіх заняткаў, але з увагі на гасцей з Беластока была заімправізаваная маленькая мастацкая частка -- заспяваў школьны дзявочы калектыў. Хаця дзяўчаты і зусім на такую акалічнасць не рыхтаваліся, то выступ іхні атрымаўся надзвычай удалым.

Уражанні ад візіту ў Ласінцы засталіся самыя лепшыя. Вёска жыве -- там 32 дзяцей, якія вучацца ў мясцовай школе. Ёсць і меншыя дзеці, якія ў школу пойдуць праз год-два -- сказалі васьмікласнікі. Нашай школы не зачыняць -- нашы бацькі тут вучыліся, мы тут вучымся ды пасля нас таксама сюды прыйдуць.

(алм)





*На распачацці школьнага года ў Ласінцы.* **Фота М. Лукшы**

# JAK KUBA BOGU...

"**Najlepiej te szkoły ogrodzić drutem kolczastym i niech się Białorusini kiszą we własnym sosie**" - powiedział na sesji Rady Miasta w **Bielsku Podlaskim** jeden z radnych. Około 15-tysięczna społeczność białoruska ma w Radzie 12 swoich przedstawicieli. Większość stanowią jednak Polacy.

Pomysłodawca stworzenia dla współobywateli narodowości białoruskiej czegoś w rodzaju getta mówił o Szkole Podstawowej Nr 3, jedynej w Polsce podstawówce z obowiązkowym językiem białoruskim i Liceum Ogólnokształcącym z białoruskim językiem nauczania, drugim obok LO w Hajnówce. Nazwa ta wprowadza właściwie w błąd, sugeruje bowiem, że nauka wszystkich przedmiotów jest prowadzona po białorusku. Faktycznie zaś uczniowie przyswajają wiedzę w języku polskim, białoruski natomiast jest odrębnym przedmiotem w wymiarze 4 godzin tygodniowo.

Szkoła białoruska, jeszcze jako 11-latka powstała w 1944 roku, zaraz po wyzwoleniu Białostocczyzny spod okupacji niemieckiej. Po 2 latach ówczesne władze szkołę zamknęły wychodząc z założenia, że cała ludność skorzystała, bądź powinna skorzystać z możliwości wyjazdu do ZSRR, a ci co zostali, są Polakami. Staraniem ludzi, którzy żyjąc w Polsce pragnęli zachować narodową odrębność, została ponownie uruchomiona w 1949 r. i od tej pory działa nieprzerwanie. W 1956 r. nastąpił podział 11-latki na szkołę podstawową i liceum ogólnokształcące.

**W LO noszącym imię Bronisława Taraszkiewicza**, posła do Sejmu II Rzeczypospolitej, autora pierwszego podręcznika gramatyki białoruskiej i przekładu na język białoruski "Pana Tadeusza", uczy się obecnie 350 wychowanków. Według danych z ostatnich 4 lat, co roku na studia wyższe dostaje się średnio 80,3 proc. absolwentów. Uczniowie odnoszą też liczne sukcesy w olimpiadach przedmiotowych.

"**Aby być zauważonym, trzeba mieć osiągnięcia, dlatego kładziemy taki nacisk na utrzymanie wysokiego poziomu nauczania, co przyciąga do szkoły nie tyko dzieci z rodzin białoruskich. Mamy 10-osobową grupkę uczniów z mieszanych małżeństw, a także kilkoro Polaków, których nie odstrasza obowiązkowa nauka białoruskiego**" - mówi dyrektorka LO, p. Zenaida Nowicka.

Liceum im. Bronisława Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim, podobnie jak związana z nim podstawówka, nie jest zwyczajną szkołą, gdzie uczniom tłoczy się do głów niezbędny zasób wiadomości. LO organizuje spotkania z gośćmi z Białorusi i przedstawicielami miejscowej Cerkwi Prawosławnej, urządza konkursy recytatorskie, wyjazdy na różnego rodzaju imprezy kulturalne. Stale współpracuje z dwiema szkołami na Białorusi.Około 20 maturzystów wyjeżdża co roku na studia do Mińska i Grodna. Obie szkoły stanowią bowiem ważny ośrodek kultury i myśli białoruskiej nastawiony na rozwijanie u młodzieży poczucia własnej tożsamości narodowej.

"**Białorusini są narodem łatwo ulegającym obcym wpływom**" - twierdzi Zenaida Nowicka. - "**Nie potrafią walczyć o swoje racje, bez oporu dają sobie różne rzeczy narzucać. Naszą sytuację pogarsza fakt, że wymiera ostoja mowy i tradycji białoruskiej - wieś. W latach 50-tych i 60-tych młodzież wiejska stanowiła ponad 60 proc. naszych uczniów, dziś wskaźnik ten spadł poniżej 20 proc. Młodzi uciekają od coraz większej biedy do miast, gdzie proces wtapiania się w środowisko polskie postępuje szybciej. Wielu nie chce przyznać się do swoich korzeni, wstydzi się własnej mowy i pochodzenia.**"

Powody są różne, ale jeden chyba najważniejszy: obawa przed staniem się obywatelem II kategorii. Zwłaszcza że atmosfera wokół mniejszości narodowych w wolnej Polsce zagęszcza się. Obok głoszonych ofcjalnie haseł o tolerancji, poszanowaniu praw, zgodnym współżyciu, coraz częściej rozlegają się wołania: "Polska tylko dla Polaków!"

W Bielsku Podlaskim pojmują to po swojemu. Z Urzędu Miejskiego wyrzucono wszystkich Białorusinów z tego jakoby powodu, że należeli do PZPR. Narasta też konflikt wokół Szkoły Podstawowej nr 3. Jest to szkoła bezobwodowa, co oznacza, że mogą do niej chodzić dzieci z całego miasta. Władze miejskie i oświatowe zamierzają przekształcić ją w placówkę obwodową, prowadzącą nabór jedynie w obrębie wyznaczonego rejonu. Zdaniem dyretorki Liceum, ma to na celu usunięcie języka białoruskiego, którego dzieci polskie, przyjęte zgodnie z zasadami rejonizacji nie zechcą się uczyć. Kolejny przejaw niechęci wobec aspiracji mieszkających w Bielsku Podlaskim Białorusinów, to sprawa przyznania szkole nr 3 budynku po byłym komitecie PZPR, o co ubiega się od dawna dyrektor, **Bazyli Leszczyński**. Szkoła jest bowiem rozpaczliwie przeładowana. 1000 dzieci uczy się na trzy zmiany. Tymczasem w dawnym komitecie otwarto polską miniszkółkę z klasami I-IV. Dyrektorowi Leszczyńskiemu ktoś "życzliwy" doradził: jeśli panu za ciasno, niech pan nie przyjmuje tylu uczniów.

"**To może są szczegóły, ale z nich składa się przecież życie**" - wyjaśnia Zenaida Nowicka poczucie zagrożenia, narastające wśród Białorusinów mieszkających w Bielsku Podlaskim. Nawiedzeni zarzucają Białorusinom, że sprzyjali komunizmowi, a dziś popierają SdRP. "**Wcale nie uważamy, że poprzedni ustrój był doskonały, ale jedno nie ulega wątpliwości: czuliśmy się w nim pewniej, mimo że nikt nas nie głaskał**"- podkreśla Zenaida Nowicka, działająca, obok pracy w szkole, w Białoruskim Towarzystwie Społeczno-Kulturalnym - "**nie jesteśmy i nie chcemy być wrogo nastawieni do kogokolwiek, ale wymagamy liczenia się z nami**".

W Polsce żyje około ćwierć miliona osób narodowości białoruskiej. Polaków na Białorusi jest dwa razy tyle. Podczas wizyty na Białostocczyźnie przewodniczący Rady Najwyższej Białorusi, Stanisław Szuszkiewicz, zapowiedział, że władze Białorusi tak będą dbać o mniejszość polską, jak Polska dba o mniejszość białoruską. Warto, by pamiętali o tym zwolennicy grodzenia drutem kolczastym białoruskich szkół.

**A. MOROZ**
*"Gazeta Rolnicza", nr 34 (28.04.1993 r.)*

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ВЕЛІЧ БЕЛАРУСІ

**З навуковым кансультантам фільма „Максім Гарэцкі" — ЮРКАМ ЧУДЗІНЫМ гутарыць ЮРЫ ТРАЧУК**

**Юры Трачук:** — *6 ліпеня г. г. прайшла сотая гадавіна з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка, класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Скажыце калі ласка, як адзначаўся юбілей гэтага славутага пісьменніка ў Беларусі?*

**Юрка Чудзін:** — Напярэдадні была створана ўрадавая дэлегацыя па святкаванні юбілею Максіма Гарэцкага, які ўпершыню шырока адзначаўся ў рэспубліцы. Спачатку была высветлена канчатковая дата смерці пісьменніка і месца расстрэлу — горад Вязьма. Прайшлі навуковыя імпрэзы ў Акадэміі навук Беларусі, грамадскія пасяджэнні, а 7—8 лютага адбылося святкаванне юбілею ў Горы-Горках, з якімі Максіма Гарэцкага звязвае вучоба ў Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы і ў Мсціслаўе. Прыехалі дэлегацыі ад кожнай вобласці з прадстаўнікоў грамадскасці, навуковых і культурных устаноў розных гарадоў. У Палацы культуры Горы-Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі прайшла навуковая імпрэза, адбыўся мастацкі канцэрт, у якім выступалі і прафесіяналы, і самадзейныя артысты. На навуковым пасяджэнні разглядалася літаратурная творчасць Максіма Гарэцкага і ягоная эпоха, а таксама месца пісьменніка ў ёй. Хочацца сказаць яшчэ, што імпрэзу ў Горы-Горках праводзілі і гарадскія ўлады. Упершыню яны, як сказалі, фактычна адкрылі для сябе свайго славутага земляка і, як запэўнівалі, яны зробяць гэтыя імпрэзы рэгулярнымі. На другі дзень з раніцы прайшло адкрыццё бібліятэкі ў Горы-Горках, якой надалі імя аўтара „Віленскіх камунараў" і „Камароўскай хронікі", і пасля дэлегацыі рушылі на аўтобусах у вёску Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна, недалёка ад Горы-Горак, дзе адбылося ўрачыстае адкрыццё Музея Максіма Гарэцкага. Адбудавана хату, у якой жыла яго сям'я, супрацоўнікамі навуковых устаноў з Менска створана добрая экспазіцыя. На ўрачыстасць прыйшлі вяскоўцы, якія яшчэ памяталі Максіма Гарэцкага. На адкрыцці выступалі прадстаўнікі культуры і навукі, між іншым, пляменнік выдатнага пісьменніка, акадэмік Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Янка Брыль, міністр культуры Яўген Вайтовіч, мясцовыя ўлады. Наогул, у складзе дэлегацыі было каля трохсот чалавек. Пасля адкрыцця музея ў Малой Багацькаўцы пасхалі ў Мсціслаў, дзе таксама адбыўся ўрачысты банкет з мясцовымі ўладамі. Гаварылі пра культуру, пра лёс Малой Багацькаўкі, бо сёння там вельмі мала жыве людзей і ставіцца пытанне, што зрабіць, каб гэтая мясцовасць стала зноў перспектыўнай, каб там жылі не толькі старыя, але і моладзь, каб вёска Максіма Гарэцкага жыла. Дарэчы, гаварылі там і пра тое, што трэба наогул рабіць Музей сям'і Гарэцкіх, бо гэта сям'я гэтая унікальная і па інтэлекце, і па дачыненнях да беларускай культуры, беларускай справы: Максім Гарэцкі — пісьменнік, яго родны брат, Гаўрыла — акадэмік і дзеяч беларускай культуры і пляменнік, сын Гаўрылы, Радзім Гарэцкі — таксама акадэмік.

— *У свой час (у 1986 г.) мне якраз давялося пазнаёміцца ў Варшаве з акадэмікам Радзімам Гарэцкім. Ягонай маці, Ларыса Парфіяновіч, як ён мне гаварыў, родам з Беласточчыны. Ці ўдзельнічала Ларыса Парфіяновіч ў гэтых урачыстасцях?*

— Ларыса Парфіяновіч не ўдзельнічала ва ўрачыстасцях, бо яна чалавек стары і ёй цяжка было ехаць у Горы-Горкі, у Малую Багацькаўку. Не ўдзельнічала таксама і родная дачка Максіма Гарэцкага Галіна. Яна цяпер жыве ў Пецярбурзе. Хаця яны шмат робяць. Напрыклад, Галіна Гарэцкая ў другім нумары „Полымя" за гэты год, спецыяльна прысвечаным пісьменніку, падрыхтавала і пракаменціравала невядомыя раней забароненыя творы свайго бацькі, — „Скарбы жыцця" і іншыя.

— *Што датычыць забароненых твораў, дык мне асабіста вядомы адзін з іх, аповесць „Дзве душы". Скажыце, калі ласка, якая была прычына, што яго так доўга не друкавалі ў Беларусі? Ён з'явіўся толькі ў апошні час.*

— Я не літаратар, але мне здаецца, што прычынай забароны некаторых твораў Гарэцкага быў іх вялікі нацыянальны пафас. Пісьменнік быў таксама адным з тых, хто не стаў служыць ідэалогіі, рэжыму, ён заставаўся творцам у высокім сэнсе гэтага слова і галоўным для яго было пісаць так, як ён бачыў свет і як думаў да канца. Ён глыбоканацыянальны. Вось, у другім нумары „Полымя", надрукавалі купюры з раней выдадзеных твораў. Хочацца сказаць, што чатырохтомнік і пяты том (дадатак, у якім аповесць „Дзве душы") таксама выйшлі з купюрамі, хоць у 1990 г., зусім нядаўна. Ужо па іх змесце відно, што выкрэслівалася найбольш тое, што было глыбоканацыянальнае. Дарэчы, вялікая колькасць твораў Максіма Гарэцкага яшчэ нявыдрукаваная. Пра поўны збор твораў сёння пакуль што, не выпадае і гаварыць. У другім нумары „Полымя" надрукавалі „Скарбы жыцця". Гэта разважі пра лёс свой і лёс Беларусі, пра повязь лёсу Бацькаўшчыны са сваім уласным „я". Ён пісаў іх ужо ў ссылцы на поўначы Расеі — у Вятцы. Надрукавалі там таксама „Кіпарысы". Гэта ранейшы твор, які ўзнік яшчэ да разгрому „нацдэмаў" у 1928 г. Ён нават дзесьці „апалітычны" — гэта проста вельмі дэталёвае апісанне жыцця пад Саветамі. І відаць, што нічога пры іх не змянілася... Відаць, гэта паслужыла прычынай таму, што „Кіпарысы" не былі выдрукаваны. А жыццё інтэлігента так і заставалася цяжкім. Ну, і я ведаю, што па архівах можна знайсці яшчэ нямала нявыдрукаваных твораў Гарэцкага. Напрыклад, ёсць твор „Памінкі" пра жыццё і лёс беларускага настаўніцтва ў Заходняй Беларусі, пад палякамі, на так званых „Крэсах усходніх", пра цяжкасці, з якімі гэтыя людзі сутыкаліся. Дарэчы, на адным з апавяданняў стаіць пячатка: „*Забаронена", Галоўліт БССР, 1926 г.*. Яшчэ далёка было да таго, каб Максіма Гарэцкага судзілі і расстралялі, а творы ўжо забараніліся і пад Саветамі. І гэтыя „Памінкі" таксама нявыдрукаваны дагэтуль.

— *Нядаўна ў Беларусі быў зняты фільм „Максім Гарэцкі". Ці змаглі б Вы крыху расказаць нам пра яго?*

— Гэты фільм зрабіла Кінастудыя беларускага гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра ў Менску па заказу Міністэрства адукацыі з мэтай пазнаёміць вучняў з біяграфіяй Гарэцкага, з ягонай эпохай, як ён жыў, дзе і з чым сутыкаўся. Фільм зроблены для вучняў сярэдніх школ як дапамога да курсу літаратуры. І, канешне, не прэтэндуе ён на глыбіню, бо Гарэцкі надзвычай складаная і глыбокая асоба. Фільм пабудаваны храналагічна. Спачатку: Радзіма, Магілёўшчына, вучоба ў Горы-Горках, пасля — віленскі перыяд і „нашаніўскае" асяроддзе пісьменніка ў Вільні, смаленскі перыяд, менскі, зноў віленскі, пасля зноў пераезд у Менск, ссылкі і ўключна да месца смерці ў Вязьме. Можна сказаць, што фільм цалкам ахоплівае біяграфію Гарэцкага ад пачатку да канца і ўсе тыя мясціны, дзе ён прабываў і галоўнае — эпоху. Як зазначыла крытыка, фільм атрымаўся цікавы і дзесьці ён спраўдзіў тую мэту. Міністэрства адукацыі фільм прыняло і паставіла яму добрую адзнаку, хаця былі там нараканні з боку камуністаў, што не трэба было казаць пра Кнорына як пра прыдуніка беларускай дзяржаўнасці. Ну, і зноў паўторы ўсяго мінулага. Міністэрства адукацыі фільм прыняло, але ёсць падставы, што так настроеныя людзі з гэтага ведамства зробяць усё, каб фільм не пайшоў па школах, каб не паказваць яго дзяцям.

— *Вы былі асістэнтам рэжысёра гэтага фільма. Гэта дакументальны фільм?*

— Так, гэта дакументальны фільм. Рэжысёрам і сцэнарыстам быў Уладзімір Колас — дырэктар Беларускага гуманітарнага цэнтра. Навуковымі кансультантамі былі супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Міхась Мушынскі і я. Наша задача — скіраваць увагу рэжысёра, сцэнарыста на эпоху, на адлюстраванне розных перыядаў жыцця класіка беларускай літаратуры, навукова расставіць акцэнты.

— *Максім Гарэцкі — гэта постаць вядомая не толькі ў Беларусі. Несумненна, гэта першы выдатны пісьменнік з Усходняй Беларусі. Ці змаглі б Вы сказаць, якое месца займае ён у еўрапейскай і сусветнай літаратуры?*

— Мне здаецца, што Гарэцкага не ведаюць на Захадзе таму, што ён амаль не перакладаўся. На ўкраінскую, літоўскую, расейскую перакладаліся зноў-такі можа не самыя лепшыя творы, з купюрамі. Самыя лепшыя толькі сёння ў рэшце рэшт вяртаюцца да беларусаў. Але па выказваннях літаратуразнаўцаў, у тым ліку замежных, — гэта, безумоўна, постаць сусветнай літаратуры па сваёй сіле, праўдзівасці, па форме і змесце сваёй творчасці. Напрыклад, беларускія і некаторыя заходнія літаратуразнаўцы сцвярджаюць, што кніга „На імперыялістычнай вайне" — гэта першы пацыфісцкі твор XX стагоддзя, і што па сваёй сіле, вастрыні, пастаноўцы праблемы, ён, можа, мацнейшы за Рэмарка. Да таго ж ён з'віўся храналагічна раней Ну, і кажуць, што калі пашырыць геаграфію твораў аднаго з першых беларускіх празаікаў, безумоўна, яго прызнаюць аматары і спецыялісты па літаратуры ў іншых краінах. Так што напэўна адкрыццё Гарэцкага наперадзе. Ну, я б не сказаў, што Гарэцкі — гэта пісьменнік Усходняй Беларусі. Ён глыбоканацыянальны, але не заўсёды выходзіў дзесьці па разуменні і пастаноўцы праблем сапраўды на сусветны ўзровень. Для яго нацыянальнае не было замкнёнасцю. Гэта вялікі гуманіст XX стагоддзя, гэта відно па ўсіх яго творах.

—*Шчыра дзякую за размову.*




*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

**ПАЧУЦЦЕ ХАРАСТВА**

Краса захоплівае толькі чалавека.
Пачуцце харaства плыве у ім, як кроў.
Яно адрознiла яго яшчэ спрадвеку
Ад пражываўшых з ім і птушак,
і звяроў.

Яно звязалася з ім моцна назаўсёды,
І будзе асвятляць жыццё яго красой,
І чараваць яго прыгожасцю прыроды:
Вясёлкаю лугоў, мелодыяй лясоў.

З пачуцця харaства вырошчвае ён
кветкі
І з радасцю глядзіць на кожны іх
бутон,
І цешыцца вясной, калі цвітуць
палеткі,
І трэлямі звініць нябесны парасон.

З пачуцця харaства ён будаваў палацы,
Глядзеў за чысцінёй, ахайваў родны
храм.
Пачуцце харaства — то стымул
цяжкай працы,
Якую аддаваў ён Богу ці багам.

Яно яму тварыла мастацтва і культуру,
Яно дало яму: паэзію і спеў,
Оперу і балет, разьбу, архітэктуру,
І вобразы яго багінь і каралёў.

Яно дало яму энергію, апору,
Далейшы сэнс яго багатага жыцця...
Без гэтага пачуцця ён, быццам у
пячоры,
Ніколі б сам не выйшаў са змроку
забыцця.

*ВІКТАР ШВЕД*

**ПРЫГОДА З ПЧОЛАМІ**

*Ірыне і Валодзі Паўлючукам*

На аўтобусным паўстанку,
Што стаіць паміж двух сёл,
Давялося летнім ранкам
Стрэцца мне з атакай пчол.

І быў гэта праз хвіліну
Проста для мяне кашмар.
Пчолы джалілі няспынна
Мае рукі і мой твар.

Уцякаў да крайняй хаты,
Скусаны ўжо напавал.
Там мне вынялі багата
З маіх рук і твару джал.

І мой добры друг Валодзя,
Мне ўжо, хвораму да слёз,
Дапамог у той прыгодзе —
„Фіяцікам" сваім адвёз...

*3.VIII.1993 г.*

# ВАРТА МЕЦЬ ТАКІЯ КНІЖКІ

Набыць іх можна ў рэдакцыях "Нівы" і "Часопіса". Гэта кнігі "Паратунак" Міколы Гайдука і "Dzieje konfliktów polsko-ukraińskich" Мікалая Сівіцкага.

"Паратунак" - гістарычныя эсэ, у якіх наш зямляк, "белавежац" М. Гайдук жывапісна і праўдзіва прадстаўляе нашу вандроўку сярод іншых народаў па цярністай дарозе. Мелі мы сваіх герояў і змагароў. У прадмове да кнігі, "Шляхамі стагоддзяў", і Вячаслаў Чамярыцкі ўкінуў сваё зерне ў добрую глебу Гайдука; і тут шмат можам даведацца аб складаным жыцці нашых продкаў. Гайдук, праўдзівы мастак і майстар, малюе наша колішняе ў магутных карцінах гісторыі, не горшай гісторыі суседніх і іншых народаў.

Кніга чытаецца лёгка, з прыемнасцю. Напісана яна сумленна, не "на скорую руку", а апіраючыся на гістарычныя крыніцы. Аўтар не змарнаваў часу ў архівах, гартаючы запыленыя часам старонкі дакументаў і летапісаў. Мікола Гайдук не толькі ў гісторыю умее ўслухацца. Ён умее слухаць жывых людзей, іх песні, легенды. А легенда, песня і быль - маюць у сабе народную прыгажосць і гістарычную праўду.

Кніга Гайдука падзелена на 12 раздзелаў. На пачатку кожнага - малюнак, які датычыць зместу. Варта пачаць чытанне! Асабліва школьнай моладзі, для якой гэта кніга павінна стаць падручнікам гісторыі. Вось за такую працу, за такую універсальную, багатую кнігу варта даць званне доктара honoris causa!

Кніга М. Гайдука "Паратунак", прыгожа аформлена і багатая зместам, павінна знайсці месца на паліцы кожнага беларуса. Пацікавіцца мы павінны і іншай кнігай, на польскай мове, Мікалая Сівіцкага, "Dzieje konfliktów polsko-ukraińskich", з якой сёння я прывяду адну выснову: Расея зрабіла адну, вялікую, ракавую памылку, калі агнём і мячом калісьці заваёўвала сабе чужыя тэрыторыі, і за гэта сёння збірае плады.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ЛІСТЫ ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ

**Добры дзень, Ада!**

Хачу расказаць табе пра вёску Струга Мастоўскага раёну, дзе замужам мая пляменніца Тося, куды мяне ў апошні час запрашаюць на вялікія святы. Муж Тосін Алёша — праваслаўны. Больш у вёсцы праваслаўных. Вёска вялікая, вуліца доўгая. Каля кожнай хаты — лаўкі, на якіх старыя сядзяць, а дзяцей у вёсцы шмат. У Алёшы і Тосі іх пяцёра: Ірка вучыцца на другім курсе факультэту беларускай культуры. У мінулым годзе яна выглядала такім няўклюдным качанём, да таго ж маўклівым, а цяпер ужо і язычок і ножкі — усё ў яе стала на месца. Оля канчае школу, шмат дапамагае маці па хатняй гаспадарцы. „Ці пусціш ты мяне на танцы?" — „Не, без Іркі не пушчу", — кажа маці. „Бачыш, як у кухні — то я ўжо дарослая, а як у клуб — то ты мяне не пускаеш". Так скажа і пойдзе да братоў, якіх трое: Віця, Алёша і Сярожа. Гаспадаром будзе сярэдні, Алёша, які цяпер, здаецца, у чацвёртым класе. Бацька пайшоў на ферму даіць каровы, кінуў механізацыю. То Алёша можа яго ўжо цалкам замяніць на ферме. Усё ўмее — і накарміць, напаіць, і падаіць, і прыбраць. Гэтак жа і ў сваім хляве.

Віця, старэйшы, калекцыянуе грошы, маркі, значкі і яшчэ шмат што. А Сярожа мроіць. Або яму чэрці сняцца і ён па тэлевізары шпурляе чым трапіцца, каб чарцей адтуль выгнаць, а браты тады яго крыху лупцуюць. Усе дзеці працуюць на гаспадарцы шмат. І любяць хадзіць з намі аж у лес, ведаюць, як той лес называецца і чаму. Два сабакі таксама любяць лес. Старэйшы сабака Тузік забяжыць наперадзе аж у суседнюю вёску, пакуль мы ідзём па палявой дарозе. Джэк — малады, але вялікі. Узімку, на Каляды, хлопцы запрагалі яго ў санкі і каталіся па вясковай вуліцы. Калі ішлі сабачыя разборкі, то Тузік як больш вопытны мог і ў суседні двор забегчы і чацверанагага „гаспадара" таго двара грызануць. Калі мы былі там у сакавіку, Тузік вярнуўся з выгнання з суседняй вёскі, куды яго аддалі знаёмым. Ён страціў у двары сваё лідэрства і вінавата круціўся, падціснуўшы хвост. Яго пакармілі, вядома, але не пахвалілі.

У вёсцы статкі гусей, індыкоў і качак. Мы, такія гарадскія госці, назіралі, як два гусакі праз плот шчыпалі і дубасілі адзін другога, а бабы-гускі гагаталі, выстраіўшыся ў два рады, але гусакам не перашкаджалі. Таксама ў вёсцы шмат авечак. Авечкі стаяць у бліжэйшым ад хаты хляве, пасля кароvы, а ў крайняй загародцы — свінкі. Аляксей растлумачыў, што свіні падымаюць піск, калі воўк ці чалавек залазіць у хлеў, а авечкі слупянеюць ад страху.

Я табе апавядаю пра Стругу, а навошта, — ты ўжо і сама зразумела. Беларусь ад голаду не вымра. У горадзе голад будзе, але вёска застанецца. Алёша Пацапей лічыць, што і калгасы ў нас пакуль застануцца. Бо на ўласную гаспадарку ў людзей няма ні тэхнікі, ні фізічных рэсурсаў. Адвыклі. Наш калгас — гэта наша Радзіма. Прыкладна гэтак іх думкі ўкладзены. Ага. Вельмі важнае ў Стругах праваслаўе, вера. Яны на Вялікдзень ідуць на ўсяночную ў Гудзевічы ў царкву. Посцяць усе. Цэлы дзень. Увечары да споведзі. На вёсцы валачобнікі ходзяць. Вось я пішу табе і дажоўваю пірог з макам, які прыслала мне Тося — „валачобнае". Бацька правярае, ці ўмеюць хлопцы спяваць святыя песні. Увечары першага дня Вялікадня дзеці ідуць сабе, а дарослыя сваёю кампаніяй валачобіць. А на Каляды яны не калядуюць, толькі ўдома дзяўчаты варожаць.

Каб сварыліся суседкі, то мы не чулі, але Тося сказала так: „Калі суседчына дачка паступіла ў тэхнікум, то маці так задрала нос, што калом яго дастаць было нельга, а калі наша Ірка стала вучыцца ва ўніверсітэце, куды той гонар знік".

То і Олі, мабыць, трэба вучыцца ва ўніверсітэце...

**Твая Дануся**

<u>Венгерская меншасць у Славакіі</u>

## УКАЗАЛЬНІКІ — ЯБЛЫКАМ РАЗЛАДУ

Адміністрацыйныя ўлады на поўдні Славакіі ліквідуюць двухмоўныя дарожныя ўказальнікі. Супраць гэтаму пратэстуе венгерская нацыянальная меншасць. З чацвярга (12 жніўня — рэд.) солтыс адной з венгерскіх вёсак каля Камарна стаў перакрываць пад'язныя дарогі.

У дадзенай у сераду заяве Ласла Шокі — солтыс гміны Марцалёва паблізу Камарна — паведаміў аб рашэнні пачаць з чацвярга бестэрміновую блакаду ўсіх пад'язных дарог. Гэтая акцыя з'яўляецца пратэстам супраць прыбрання працаўнікамі Акруговай дарожнай управы ўказальнікаў з двухмоўнай — славацкай і венгерскай — назвай гміны.

Прэс-сакратар славацкага міністэрства транспарту Іван Вацлавік пратэст Ласла Шокі прызнаў незаконным. Заявіў ён, што ўсе ўказальнікі, якія не адпавядаюць законным нормам, будуць і ў далейшым устараняцца.

Венгерскі солтыс сцвярджае аднак, што ўказальнікі ў яго гміне не парушаюць законаў. Мае ён намер працягваць пратэст, пакуль славацкі парламент адназначна не выкажацца ў справе двухмоўных назваў мясцовасцяў на тэрыторыі, населенай рознымі нацыянальнасцямі. Блакада не будзе поўнай — прапускаюцца машыны хуткай дапамогі, аўтобусы міжгародней камунікацыі, самаходы з харчовымі прадуктамі і сельскагаспадарчыя машыны.

Акцыя ліквідацыі ўказальнікаў цягнецца ў Славакіі з лістапада мінулага года. Пачаў яе міністр транспарту Раман Гофбаўэр. У выніку венгерскіх пратэстаў і перад прыняццём Славакіі ў Раду Еўропы справа прыціхла.

Палітычныя групоўкі венгерскай меншасці тлумачэнні ўлад, што „прыбіраюцца толькі тыя ўказальнікі, якія не адпавядаюць законным нормам", лічаць хітрыкамі і абяцаюць апеляцыі ў гэтай справе ў Раду Еўропы і іншыя міжнародныя ўстановы. На думку палітыкаў меншасці — гэта наглядная праява дыскрымінацыі.

**АНДЖЭЙ ЯГАДЗІНСКІ,**
**Прага**

*„Gazeta Wyborcza", 13.08.1993 г.*

## ЗАЯВА

*Ніжэй друкуем фрагменты „Заявы" Управы Саюза украінцаў Падляшша, якая кранае справы выбарчай кампаніі. Дакументы дасланыя нашымі сябрамі ўкраінцамі — як пэўна заўважылі чытачы „Нівы" — змяшчаем найчасцей у форме ксеракопій, аднак з увагі на тое, што некаторыя падазраюць нас нават у тым, што мы на фірменнай паперы Союза самі пішам гэтыя заявы, каб акампраметаваць лідэраў братняга народа, рашылі гэтым разам апублікаваць толькі тыя фрагменты, якія датычаць „meritum" справы.*

* * *

**Redakcja Tygodnika „Niwa", Białystok**

W związku ze zbliżającym się terminem wyborów parlamentarnych przesyłamy odnośne oświadczenie Zarządu Głównego Związku Ukraińców Podlasia.

Z uszanowaniem
**Sekretarz ZG ZUP**
(podpis nieczytelny)

### OŚWIADCZENIE ZARZĄDU GŁÓWNEGO ZWIĄZKU UKRAIŃCÓW PODLASIA W SPRAWIE WYBORÓW PARLAMENTARNYCH

Bieżące wybory do Sejmu i Senatu Rzeczypospolitej Polskiej i sprawa udziału w nich w województwie białostockim środowisk ukraińskich stały się powodem do snucia rozmaitych spekulacji dotyczących stanowiska Związku Ukraińców Podlasia.

Pierwotnym zamiarem Związku Ukraińców Podlasia był aktywny udział w wyborach i wystawienie swych kandydatów do Sejmu z listy Komitetu Wyborczego Prawosławnych, którego współtwórcą był też nasz Związek. Ponieważ jednak z przyczyn niekorzystnych postanowień ordynacji wyborczej kandydaci Komitetu Wyborczego Prawosławnych nie mogliby korzystać z udogodnień przewidzianych dla przedstawicieli organizacji mniejszości narodowych istnienie Komitetu Wyborczego Prawosławnych straciło sens. W tej sytuacji organizacje białoruskie oraz Towarzystwo „Ruś" zdecydowały się wystawić swych kandydatów w ramach listy zarejestrowanej przez Związek Białoruski, zaś Związek Ukraińców Podlasia zdecydował się nie brać formalnego udziału w kampanii wyborczej do Sejmu i nie udzielać jako organizacja formalnego poparcia żadnej z list wyborczych. (...)

Fakt, iż kandydaci białoruscy spodziewają się uzyskania znacznej ilości głosów na obszarach zamieszkanych przez ludność ukraińską jest nam wiadomy. Rozumiejąc, iż aktywność narodowa i polityczna ludności etnicznie białoruskiej jest minimalna, czego dowiodły poprzednie wybory, uważamy iż nie będzie szkodą dla Związku Ukraińców Podlasia, jeżeli organizacje białoruskie wprowadzą swego posła do Sejmu także dzięki głosom miejscowej ludności etnicznie ukraińskiej. (...)

**Bielsk Podlaski, 16 sierpnia 1993 r.**

**Ад рэдакцыі:** Беларускія арганізацыі дзякуюць Союзу украінцаў Падляшша за дазвол праводзіць выбарчую кампанію беларускім кандыдатам сярод „чыстага этнічна ўкраінскага насельніцтва".

Іншая братняя арганізацыя пратэстуе аднак і даказвае, што гэтая тэрыторыя — „это истинно русский край".

Таварышы, нам здаецца, што праз некалькі гадоў усе вы згодна будзеце гаварыць тое самае і jedynym zrozumiałym na tym terenie językiem.




## ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

**ЧАСТКА XI**

Паміж двума ўжо прыведзенымі мною ў папярэдніх адрэзках крайнімі выказваннямі аб вайсковым саюзе Беларусі з Расіяй, змяшчаецца цэлы рад выказванняў, якія болей або меней адрозніваюцца ад экстрэмальных ацэнак арганізацыйнай і палітычнай ідэі вайсковай еднасці з Расіяй. Размоўцы — грамадзяне сучаснай Рэспублікі Беларусь — наогул амаль усе падкрэсліваюць этнічнае, моўнае і рэлігійнае падабенствы рускіх і беларусаў, аднак далёка не ўсе лічаць сёння, што вайсковы саюз Беларусі і Расіі добра служыў бы інтарэсам Беларусі як краіны і беларусаў як людзей.

Сёння прагну прывесці выказванне пяцідзесяціпяцігадовага беларуса, які працуе чыноўнікам:

„Я вайну памятаю як праз імглу. Аднак наслухаўся аб ёй удоваль. Мне здаецца, што не было ў маім дзяцінстве і маладосці ніводнага дня, у якім не было б гаворкі аб вайне. Маці і старэйшыя сёстры не толькі гаварылі аб галечы, голадзе, праследаваннях, арыштах і расстрэлах у час акупацыі, але таксама ў іх выказваннях праяўлялася гордасць з тае прычыны, што Савецкі Саюз разбіў гітлераўскую Германію і што з яго аўтарытэтам лічыўся ўвесь пасляваенны свет. Ну, можам прыняць сёння, калі ўжо Гарбачоў па загаду Амерыкі развалій Савецкі Саюз, што праз дзесяць ці дваццаць гадоў немцы ізноў рушаць на Расію. Ну, дык кудою яны пойдуць? Зразумела, што зноў пойдуць праз Беларусь. Іншай дарогі няма. Прымем, што Беларусь утрымае сваю незалежнасць і нейтральнасць і не будзе супрацоўнічаць з Расіяй. Ну, дык што? Немцы ўшануюць гэтую незалежнасць і нейтральнасць? Такое меркаванне было б чыстым глупствам і наіўнасцю. Васьмідзесяцімільённы вал пракоціцца бязлітасна праз Беларусь і пакоціцца праз Расію. Гэта вынікае з нашага геаграфічнага размяшчэння, ад якога нідзе не дзенемся і не ўцячэм. І вось зыходзячы з такога пункту гледжання, магло б здавацца, што вайсковае супрацоўніцтва або вайсковы саюз з Расіяй вельмі карысны і патрэбны. Аднак можам зысці і з супрацьстаўнага погляду, можам узяць пад увагу тое, што ў Еўропе адвечную агрэсію праяўляла не толькі Нямеччына, але таксама і Расія, і што якраз Расія праявіць агрэсію на ўсходзе, захадзе ці на поўдні і будучы з Беларуссю ў Вялікім Саюзе абавязкова яе ўцягне ў свае ваенныя авантуры і беларусы будуць прымушаны праліваць сваю кроў і гінуць па сутнасці не за свае, але за рускія інтарэсы. І вось, калі глянем на гэту праблему ў такім аспекце, дык становіцца ясным, што на ваенным саюзе з Расіяй Беларусь заробіць, як Заблоцкі на мыле.

Калі б мне сёння прыйшлося галасаваць у гэтай справе, дык я, прызнаюся вам, сам не ведаю, як галасаваў бы. Ну, а што датычыцца ўсяго беларускага грамадства? Зразумела, што тут катэгарычна і адназначна мог бы прагназаваць толькі наіўны чалавек. Мне здаецца, што многа было б такіх, якія галасавалі б за ваенны саюз з Расіяй, але многія былі б таксама супраць. Вы ведаеце, што было ў нас такі час пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі, што многія людзі былі схільны верыць, што Беларусь самастойна вырашыць усе пытанні і што жыць будзе ўсё лягчэй і лягчэй. Такімі абяцанкамі, як вядома, шчодра кармілі беларусаў Пазняк і яго людзі. Але што аказалася? Аказалася, што людзям жывецца з кожным днём горш і горш. Ну, дык, што гаварыць у такой сітуацыі людзі? Гавораць вельмі проста. Кажуць, што тады, калі жылі разам з Расіяй у адным Савецкім Саюзе, дык жылося добра, а цяпер, калі адыходзім ад Расіі, жывецца ўсё цяжэй. Ну, дык вядома, што прыбывае людзей такіх, якія гатовы на ўсё, каб толькі вярнулася, калі не цалкам усё старое, то прынамсі многа з таго, што было калісьці. Зрэшты, ці толькі ў нас? Вы ж гляньце ў Балгарыі, у Румыніі, а нават у Літве выйгрываюць выбары посткамуністы. Ну, дык лёгка сабе ўявіць, якія будуць вынікі выбараў у Беларусі. Беларускі народны фронт рвецца да выбараў, але не разумее ён, бедалага, што ў гэтых выбарах пагарыць так, што мала што з яго астанецца, а можа і не астанецца нічога.

Я асабіста не хацеў бы, каб вярнулася ўсё старое, ды гэта, мабыць, ужо немагчымае. Аднак многія з тых форм супрацоўніцтва, якія існавалі, павінны вярнуцца. Зразумела, што ў мяне на думцы перад усім эканамічнае, аднак невядома, ці Расія не паставіць свае варункі і не скажа: эканамічнае супрацоўніцтва будзе толькі тады, калі падпішаце вайсковы саюз. Вось гэта загвоздка. Тут і Саламон меў бы над чым задумацца."

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка
старонка для дзяцей



*Школа ў Новай Волі.* Фота Я. Целушэцкага

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

# ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА

*КАЗКА*

## ГЛАВА І

Жыў сабе адзін чалавек, на прозвішча Прудан, што значыць Асцярожны. Быў ён удавец і жыў адзін са сваёю дачкой, якую клікалі Разалі.

Чалавек быў багаты, у яго быў вялікі дом, а вакол дома цудоўны сад, дзе Разалі магла гуляць, колькі хацела.

Бацька выхоўваў дачку з ласкаю і любоўю, але вучыў заўжды і ва ўсім яго слухацца. Ён забараняў Разалі задаваць недарэчныя пытанні ці прасіць, каб ён расказаў пра тое, што, на яго думку, не павінна яе цікавіць. Праз вялікі клопат і добры догляд яму ўдалося амаль цалкам пазбавіць дачку такой, на жаль, частай заганы, як залішняя цікавасць.

Разалі ніколі не выходзіла з саду, абнесенага высокім мурам, і нікога, апроч свайго бацькі, ніколі не бачыла. Слуг у іх доме не было, але ўсё тут рабілася нібыта само сабой. Таму ў Разалі заўжды было ўсё, што ёй было трэба: і адзенне, і кніжкі, і прылады ды ніткі на вышыванне, і цацкі. Бацька выхоўваў яе сам, і Разалі (хоць ёй было ўжо амаль пятнаццаць гадоў) зусім не сумавала і не думала нават, што магла б жыць іначай, сярод іншых людзей.

У глыбіні саду стаяла хатка -- зусім без вокнаў і толькі з аднымі маленькімі дзвярыма, якія заўсёды былі зачыненыя. Кожны дзень Разалін бацька туды заходзіў, але ключык заўсёды насіў з сабой. Разалі думала, што гэта, напэўна, клець, у якой складзеныя садовыя прылады, і ў яе ніколі не ўзнікала жадання спытаць пра хатку ў бацькі. Але аднойчы яна шукала лейку, каб паліць свае кветкі, і папрасіла бацьку:

-- Бацька, дайце мне, калі ласка, ключык ад хаткі ў садзе.

-- Навошта табе ключык, Разалі? -- занепакоіўся бацька.

-- Мне патрэбная лейка. Я думала, яна ў гэтай хатцы.

-- Не, Разалі, лейкі ў той хатцы няма.

Калі бацька казаў гэтыя словы, голас у яго быў такі насцярожаны, што Разалі зірнула на яго і здзіўлена ўбачыла, што ён увесь збялеў і на лобе ў яго выступілі кропелькі поту.

-- Што з вамі, бацька? -- спалохалася Разалі.

-- Нічога, мілая мая дачушка, нічога.

-- Вас так узрушыла мая просьба даць мне гэты ключык? Што ж такога страшнага ў гэтай хатцы?

-- Разалі, -- сказаў бацька, -- ты сама не ведаеш, пра што пытаешся. Ідзі лепш пашукай лейку ў шклярніцы.

-- Але, бацька, што ўсё ж такое ў той хатцы?

-- Нічога, што можа зацікавіць цябе, Разалі.

-- Але чаму тады вы ходзіце туды кожны дзень і ніколі не дазваляеце мне пайсці разам з сабою?

-- Разалі, ты ж ведаеш, што я не люблю пытанняў і што цікаўнасць -- вялікая загана.

Разалі адразу змоўкла, але прызадумалася. Думка пра хатку, на якую яна раней не звяртала вялікай увагі, ніяк не выходзіла ў яе з галавы.

"Што ж там можа такое быць? -- думала яна. -- І як мой бацька збялеў, калі я папрасіла ключык... Значыць, на яго думку, каб я ўвайшла туды, мяне магла б чакаць небяспека!.. Але чаму ж ён сам туды ходзіць амаль кожны дзень?.. Напэўна, ён носіць ежу якому-небудзь лютаму зверу, якога трымае там пад замком... Але каб гэта быў люты звер, я пачула б, як ён рыкае ды варушыцца, а з гэтай хаткі не чуваць ніводнага гуку... Значыць, гэта не звер! Дый ён даўно ўжо з'еў бы майго бацьку... калі толькі не прывязаны... Але ж каб ён быў прывязаны дык і мне не было б ніякае небяспекі. Што ж тады там можа быць?.. Вязень!.. Але бацька ў мяне добры, ён ніколі не пазбавіў бы волі і долі бязвіннага чалавека!.. І павінна абавязкова знайсці разгадку гэтае таямніцы... Але як?.. Вось бы хоць на паўгадзінкі ўзяць у бацькі той ключык! Можа, калі-небудзь ён яго забудзе..."

Гэтыя Разаліны разважанні былі перапыненыя бацькам, які клікаў яе крыху незвычайным голасам.

-- Я тут, бацька, -- азвалася Разалі, -- ужо іду!

І яна пабегла да бацькі. Калі яна падышла да яго, то заўважыла, што твар у бацькі бледны і вельмі занепакоены. Было адразу відаць, што ён нечым дужа ўсхваляваны. Гэта яшчэ больш азадачыла дзяўчынку, і яна вырашыла прыкінуцца вясёлай і бесклапотнай, каб супакоіць бацьку, а потым завалодаць яго ключыкам, калі ён, можа, перастане пра яго ўвесь час думаць, убачыўшы, што Разалі і сама пра яго забылася...

*(Працяг у наступным нумары)*

**БЯРЫ З ГРАДУСНІКА ПРЫКЛАД!**

Ваня з татам нечакана
Апынуўся ў Закапанэ.
Узыходзячы да гор
Ад жары ледзь не памёр.

Тата кажа: -- Не прывыклы,
Бяры з градусніка ты прыклад.
Калі толькі гарачэй,
Ён ўгару ідзе хутчэй.

**РЭКАРДСМЕНКА**

Хваліўся Марцін:
-- Сястра мая, Ніна,
Ад гадоў пяці
Іграе на піяніна.

-- Гэта не ігра,
А папросту мука.
Дык спыніць пара!
Не баляць ёй рукі?

**МАГУ НЕ ХАДЗІЦЬ У ШКОЛУ!**

Абвясціў у хаце тата:
-- Купім мы малога "фіата".
Ашчаджаць мы ўсе павінны,
Каб змагчы купіць машыну.

Я курэнне кіну, трункі,
Мама ўсе свае ласункі...
-- Я ад сёння, -- кажа Коля, --
Магу не хадзіць у школу.

**ГАЗЕТЧЫК**

Нясе пад пахай жмут газет
Газетчык-малалетка,
Каб зарабіць хоць на абед.
-- Каму, каму газетку?

-- Зусім замучышся, сынок, --
Прахожы спачувае.
Спыніў хлапчук на хвілю крок:
-- Дык я ж іх не чытаю!

**СЫНОК УЖО ГАВОРЫЦЬ**

-- Пераканаўся я учора,
Што мой сынок ужо гаворыць.
Маю на гэта доказ яркі:
Была з сынком у заапарку.

Калі я завяла Фядота
Да вальеры бегемота,
Падняў уверх ён ручаняты
І крыкнуў: -- Тата, тата!

**НА ЎРОКУ ГЕАГРАФІІ**

-- Да чаго, скажы, Разалія,
Можам параўнаць Італію?
Падказвае Дарота:
-- Да гумовага бота.

-- А чаму ж, -- смяецца Вова, --
Ён гумовы?
-- Дык вядома ж: стаіць дзе?
У вадзе.

**НАД РАКОЮ**

-- Гэта ты, скажы, хлапчына,
Выратаваў майго сына?
-- Каб я тут не паявіўся,
Ён напэўна б утапіўся...

-- Дзякую табе, хлапчына,
За сардэчны твой учынак.
Адкажы ж мне на пытанне:
А дзе ж шапка майго Вані?!

# РЭХА

У адным прыгожым лесе жыло Рэха. Але яно не было падобнае на тыя, што жылі ў суседніх лясах. Яно было вясёлае. Смяшыла ўсіх, хто з ім абзываўся.

Упадзе старое дрэва -- бух!

Смяецца Рэха:

-- Ха-ха-ух! Ха-ха-ух!

-- Ку-ку! Ку-ку! -- падасць голас зязюля.

-- Ха-ха-ку! Ха-ха-ку! -- смяецца Рэха.

Бом! -- сарвецца з елкі шышка.

-- Ха-ха-ом! Ха-ха-ом! -- дражніцца Рэха.

Зойдзе чалавек у гушчар:

-- Ой, якія тут грыбы!

-- Бы-бы-бы! Бы-бы-бы! -- рагоча Рэха.

Людзі дзівіліся ды рукамі разводзілі: што за рэха жыве ў лесе? Увесь час толькі і смяецца. А каму прыемна, калі цябе дражняць? І перасталі хадзіць у той лес.

Засумавала Рэха. З шышак і елак смяяцца надакучыла, з птушак і звяроў -- таксама. І аднойчы прычапілася яно да грукату аўтобуснага матора і падалося ў горад.

Ад горада Рэха было ў захапленні: гэта ж толькі падумаць -- колькі тут шуму! Машыны гудуць, заводы грукочуць, трамваі звіняць, дзверы рыпяць. Які прастор для Рэха!

І пачало Рэха жыць у горадзе. Што ні дзень -- рагоча. Нават уначы не змаўкае. Толькі і чуецца: ха-ха-ха, хо-хо-хо, о-го-го! -- то раскацістае, то насмешлівае, то сцішанае.

Смяялася Рэха дзень, смяялася два, смяялася тыдзень, нарэшце -- нацешылася. Агледзеўшыся, убачыла, што ніхто яго не заўважае. Людзі кудысьці спяшаюцца -- ім не да яго, а машыны наогул не звяртаюць ніякай увагі.

Няўтульна стала Рэху. Яно зразумела, што тут, у горадзе, яно лішняе. Паблукала крыху па пустых дварах, па шматпавярховых будынках і вярнулася дадому, у лес.

З таго часу Рэха нікога больш не пацвельвае. А калі хто прыходзіць у лес і хоча з ім пагуляць, -- заўсёды адгукаецца.

-- Рэ-ха!

-- А-а-а! А-а-а!

-- Ты дзе?

-- А ты? А ты?

-- Я ў лесе!

-- Ле-се!.. Ле-се...

-- Ха-ха! -- смяецца чалавек.

І Рэха смяецца. Яму радасна, што яно зноў жыве ў лесе.

**СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ**

## АДГАДАНКА

1 2 3 4 5 6

*Якую з шасці фігур дапасуеш да парожняга квадрата?*

<u>БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ</u>

# ГРУШКА

Дзеці бяруцца за рукі, утвараючы круг, усярэдзіне якога становіцца хлопчык або дзяўчынка. Гэта і будзе грушка. Дзеці ходзяць у карагодзе вакол грушкі, спяваючы песню, называючы імя таго, хто сядзіць усярэдзіне круга:

-- Мы пасадзім грушку
Усе, усе,
Няхай наша грушка
Расце, расце.

Вырасці ты, грушка,
Вось такой вышыні.
Распусціся, грушка,
Вось такой шырыні!

Расці, расці, грушка,
Ды у добры час.
Патанцуй, Марылька,
Паскачы для нас.

А ўжо наша грушка
Распусцілася,
А наша Марылька
Зажурылася.

А мы тую грушку
Усе шчыпаць будзем.
Ад нашай Марылькі
Уцякаць будзем.

Грушка ўсярэдзіне круга павінна рабіць усё, аб чым спяваецца ў песні, -- танцаваць, кружыцца. Пры словах песні "вось такой вышыні", "вось такой шырыні" дзеці падымаюць рукі ўгору, разводзяць іх у бакі. А калі спяваюць "а мы тую грушку шчыпаць будзем", усе набліжаюцца да грушкі, каб ушчыпнуць, і хуценька ўцякаюць, а грушка ловіць каго-небудзь з дзяцей, ставіць яго на сваё месца ўсярэдзіне круга, і гульня паўтараецца.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

-- Ты ж разумны хлопец, чаму ж ты не хочаш вучыцца?! -- папракае бацька сына.

-- Калі я такі разумны, дык навошта ж мне больш вучыцца?

* * *

-- Калі ў цябе тата правярае дзённік?

-- Калі тэлевізар у рамонце.

* * *

-- Які мурзаты хлопчык! Сёння я магу сказаць, што ты еў учора!

-- Ну, скажыце -- што?

-- Кісель.

-- А вось і не! Кісель я еў заўчора!

* * *

-- Ты, Янка, смятану еў?

-- Барані божа!..

-- Чаму ж твае губы ў смятане?

-- А можа...

* * *

-- Тваё сачыненне "Наша мама" слова ў слова супадае з сачыненнем твайго брата, -- кажа настаўніца.

-- Вядома, чаму. У нас з братам адна і тая сама мама!

* * *

-- Мамка, ці людзі ў зямлі нараджаюцца?

-- Чаму ты пытаешся, дзіцятка?

-- Бо ўчора дзядзька Парфен пытаўся ў таты: "Дзе ты выкапаў такую бабу"!

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

*ЛЕДА МІЛЕВА*

## КОНІК ДРАЎЛЯНЫ

Што, замарыўся, конік драўляны?
Сто-ой! Прыпыні свае лёгкія скокі.
Пэўна, ніхто і не ўведае нават,
Як мы з табой пабывалі далёка!
Як мы заехалі ў цёмныя джунглі,
Як пераняў нас дарогаю леў,
Як сустракалі нас добрыя малпы
І апельсіны кідалі з дрэў,
Як мы ўцякалі ад злоснага тыгра
Шляхам пясчаным, пустэльна-прамым
І як спаткалі на беразе Ніла
Негра маленькага з радасцю мы.

Што, замарыўся, конік драўляны?
Ноч наступае. Хопіць -- адбой.
Адпачывай. А назаўтра ў дарогу
Раніцай зноў паімчымся з табой.
Новыя землі пабачым таксама.
Толькі -- маўчок! Бо дазнаецца мама.

*З балгарскай мовы пераклаў*
*ВАСІЛЬ ЗУЁНАК*

# ЖУК МІТРУК

Жук Мітрук жыве ў лесе, каля Масева. Жук Мітрук -- тусклях, не з сям'і драпежнікаў, корміцца толькі раслінкамі.

Калі чалавек вялікі, калі носіць сваю галаву ўжо высока над зямлёю -- цяжка яму заўважыць Жука Мітрука, калі нават той падскочыць на вышыню свайго жуковага росту, альбо і вышэй, як гэта ўмеюць насякомыя. З малымі людзьмі, дзецьмі вялікага чалавека, маленькаму Жуку Мітруку лягчэй пазнаёміцца.

Жук Мітрук ужо ходзіць у лясную школу, вывучае лясныя справы. Калі ў вас ёсць пытанні да вашага новага знаёмага, Жука Мітрука, пішыце ў "Зорку"!

**МІРА ЛУКША**



*Севярын, "стары" знаёмы "Зоркі", завітаў да нас пасля цяжкай аперацыі сэрца.* **Фота М. Лукшы**

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Лебедзі і жоравы позна ляцяць у вырай -- восень будзе цёплая і працяглая.

Жоравы восенню ляцяць высока і няспешна, часта курлыкаюць -- восень будзе звонкая, чыстая, прыгожая.

Працягла грыміць гром, перакочваецца ў воблаках -- дрэннае надвор'е будзе працяглы час.

<u>ГЭТА ЦІКАВА</u>

## НАГОТКІ СУПРАЦЬ ЖУКА

Каларадскі жук ("стонка") -- галоўны вораг бульбы. Многія бульбаводы прыкмецілі, што жук не церпіць наготкаў (календула). Магчыма, яго адпужвае пах кветак ці якія выдзяленні з каранёў, парасткаў. Таму гэту расліну трэба высаджваць на бульбяныя плантацыі.

Садзяць яе радкамі вакол палоскі бульбы, ды і яшчэ па дыяганалі. Так што можна сабраць два ўраджаі -- і клубні, і лекавы сродак. Кветкі наготкаў выкарыстоўваюць як бактэрыцыдны і супрацьзапаленчы сродкі пры захворваннях слізістай абалонкі рота.

# ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Біты верасень, ды сыты.

Прыйшоў верасень -- утаймаваў прыроду.

З верасня і ліст на дрэве не трымаецца.

Верасень агнём палае і ў лесе, і ў хаце.

У верасні адна ягада, ды і тая горкая рабіна.

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

**ПАНЯДЗЕЛАК, 13 ВЕРАСНЯ**

8.00 Пад купалам Сусвету. 8.15 „Толькі ў мюзік-холе". Тэлевізійны мастацкі фільм. 9.20. Вачамі заолага", „Даліна нарзанаў". Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 10.00 Конны спорт. Спаборніцтвы на кубак беларускай асацыяцыі па конегадоўлі. III этап. Рэчыцкі саўгас — тэхнікум Гомельскай вобласці (паўтор). 11.00 „Капрызка". „Блакітная страла", „Вер-не-вер". Мультфільмы. 12.00 З музыкай на „вы". „Запавет майстра". Кампазітар Л. Абеліевіч. 12.30 Навіны. 12.40 „Не страляйце ў музыканта", „Упарты чалавек". Дакументальныя фільмы беларускага тэлебачання. 13.30 „Дайце мне печь". Музычны фільм. 14.25 „Гондза- кап'еносец". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыя. 16.30 Навіны. 16.40 Дзіцячы экран. „Дамавік і гаспадыня", „На рынгу". Мультфільмы. 17.00 Спасціжэнне ісціны. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Выстаўка „Пленэр-93" у Менску. 19.05 Палітычны калейдаскоп. Партыя працы і справядлівасці. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 „Няспепная вясна". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я серыя. 22.10 НІКа.

**АЎТОРАК, 14 ВЕРАСНЯ**

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Пункт вяртання". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 9.35 Народны артыст М.М. Яншын". Тэлевізійны фільм. 10.40 „Няспепная вясна". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я серыя. 11.50 „Дом ля дарогі". Фіьльм-канцэрт. 12.30 Навіны. 12.50 „Рабы сабака, які бяжыць краем мора". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 15.00 Сізбар-топ-10. 16.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. „Вяртанне блукаючай зоркі" (Мікола Гусоўскі і яго паэма „Песня пра зубра"). 16.30 Навіны. 16.40 „Маналог на фоне тайгі", „У вялікім, цёмным, дрымучым лесе". Дакументальныя фільмы. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 Эканамічная хваля. Дзяржаўныя і сумесныя прадпрыемствы: партнёры ці саапернікі. Прамая лінія. 19.10 Сам-насам з Бахам. Сюіта Сі-мінор для флейты з аркестрам выконвае дзяржаўны камерны аркестр Беларусі. Дырыжор — В. Собалеў. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Шматсерыйны мастацкі фільм. 21.15 Вяртанне. Адраджэнне нацыянальных каштоўнасцей. 22.00 НІКа. 22.15 „Няспепная вясна". Тэлевізійны мастацкі фільм. 2-я серыя.

**СЕРАДА, 15 ВЕРАСНЯ**

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Майстар". Фільм-канцэрт. 8.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. „Вяртанне блукаючай зоркі" (Мікола Гусоўскі і яго паэма „Песня пра зубра"). 8.25 „Дзяжурная аптэка". Фільм. 9.00 „Няспепная вясна". Мастацкі фільм. 2-я серыя. 10.10 „Кветка папараці". Фільм-канцэрт. 11.00 „Правінцыялкі". Мастацкі фільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Мусавір", „Галасы аднаго дрэва". Дакументальныя фільмы. 13.10 Кінанастальгія. „Вертыкаль". Мастацкі фільм. 14.30 Голас дзяцінства. III Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці ў Менску. 15.25 Відзьманявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё. 16.30 Навіны. 16.40 „На Ільчы асеннім", „Востраў у акіяне", „Ёсць куток на зямлі". Дакументальныя фільмы. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 Навошта дадзена ўлада? Дзяржынскі гарадскі савет. 19.00 Беларускія музычныя весткі. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Фільм. 21.15 Палітычны калейдаскоп. Прымаюць удзел народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі. 22.00 НІКа.

**ЧАЦВЕР, 16 ВЕРАСНЯ**

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Спорт, каханне і фантазія". Кінаканцэрт. 8.10 „Дзяжурная аптэка". Фільм. 8.40 „Павел Луспякаеў". Телевізійны фільм. 9.50 „Зачараваныя песняй. Фільм-канцэрт. 10.20 „Хто баіцца — бяжыць". Мастацкі фільм. 11.55 Беларускія музычныя весткі. 12.30 Навіны. 12.40 „Галасам маім". Фільм-канцэрт. 13.40 „Чыпаліна". Мультфільм. 14.20 „Гранатавы бранзалет". Мастацкі фільм. 15.50 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. „Маё сэрца поўна любасці" (творчасць У. Жылкі). 16.30 Навіны. 16.40 „Дом над Енісеем", „Паэзія садоў". Дакументальныя фільмы. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Здароўе. Тэлечасопіс. 18.40 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 18.55 Баскетбол. Клубны чэмпіянат Еўропы. РТІ (Менск) — „Універсітаця" (Клуж, Румынія). 2-гі тайм. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Фільм. 21.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок". „Крок-дайджэст". 22.50 НІКа.

**ПЯТНІЦА, 17 ВЕРАСНЯ**

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Песні Ігара Шамо". Фільм-канцэрт. 8.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. „Маё сэрца поўна любасці" (творчасць У. Жылкі). 8.35 „Дзяжурная аптэка". Фільм. 9.05 Баскетбол. Клубны чэмпіянат Еўропы. РТІ (Менск) — „Універсітаця" (Клуб Румынія". 10.45 „Пейзаж з мэбляй". Мастацкі фільм. 12.15 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 12.30 Навіны. 12.40 „Дзівосны манеж", „Ну і ну, рыба размаўляе!" Мультфільмы. 12.50 „Мы, што ніжэй падпісаліся". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 15.15 „Гасціна" ў Выбаргу. Пра ўдзел беларускіх дзяцей у міжнародным фестывалі. 16.00 „Не толькі пра любоў..." Тэленавела. 16.30 Навіны. 16.40 „Ганна Ахматава. Рэквіем". „Арэнбурская пуховая". Дакументальныя фільмы. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 „Па лесвіцы часу да горніх вяршынь". Святлана Данілюк успамінае..." 18.50 Студыя „Летапіс" прадстаўляе: дакументальныя фільмы. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 21.05 „Дурні паміраюць па пятніцах". Мастацкі фільм. 22.40 НІКа. 23.55 Пасляслоўе да матча. „Вердэр" (Брэмен, Германія) — „Дынама" (Менск).

**СУБОТА, 18 ВЕРАСНЯ**

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Дурні паміраюць па пятніцах". Мастацкі фільм. 9.00 Паказвае Брэст. Мастацка-публіцыстычная праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Урокі здароўя. Аўтатрэнінг у нашым жыцці. 10.50 „Тэлевернісаж". Мастацкія выстаўкі. 11.05 ТА „Рэха". 20 мінут рэдактара. Па пісьмах тэлеглядачоў. 11.25 „Я з табою не развітваюся". Фільм-канцэрт. 11.55 Фільм — дзецям. „Прыгоды Бураціна". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 14.05 Памяці П. Багрыма. Свята на радзіме паэта ў Крошыне. 14.40 „І зноў у душы маёй агонь..." Рамансы С. Рахманінава спявае заслужаны артыст Беларусі В. Кучынскі. 15.15 „Скарб-93". Фестываль талентаў. 16.00 „Футбол плюс песні". Музычна-спартыўнае шоў на Менскім стадыёне „Дынама". 18.40 Сізбар-топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Зялёны прамень". Мастацкі фільм (Францыя). 22.15 НІКа.

**НЯДЗЕЛЯ, 19 ВЕРАСНЯ**

7.00 Раніца Рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік хрысціянскай місіі Рык Рэнер. 7.55 Справы вайсковыя. Прысягаю Беларусі. 8.25 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. ФК „Маладзечна" — „Дынама-93". 10.00 Асілак. Тэлевізійны спартыўны клуб. Прамая лінія. 11.00 „Карагод". Музычна-забаўляльная праграма з удзелам фальклорных калектываў Старадарожскага раёна. 11.50 Сёння — дзень работнікаў лесу. „Аб чым шапоча гай..." 12.30 „І пакуль на зямлі не пагасне каханне..." Фільм-канцэрт. 13.00 „Другое нараджэнне". Беларускі канцэрн лясной і папяровай прамысловасці. 13.30 „Доктар Айбаліт". Мультфільм. 1—7-я серыі. 14.55 Клуб „Гаў-гаў". 15.20 Плешчуць халодныя хвалі. Аб святкаванні Дня ваенна-марскога флоту ў Менску. 16.15 „Буронка з Масленкіна". Мультфільм. 16.35 „Іван Васільевіч мяняе прафесію". Мастацкі фільм. 18.05 Жыццё з песняй. Сямейны ансамбль Сурмачэўскіх з вёскі Лучнікі Слуцкага раёна. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.05 „Вымушаны забойца". Мастацкі фільм (ЗША). 21.55 „Каскад". Кантакт, інфармацыя, рэклама. 22.10 Відзьманявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, сніцца мне, быццам знаходжуся я ў чужой хаце. Я на нейкім паверсе, ведаю. Апранутая ў чорную новую куртку і чорныя чаравікі. Уваходжу ў пакой. На стале стаіць вялікі мяшок мукі. Хтосьці стаіць у мяне ззаду і кажа: „Бяры гэту муку і нясі!" Я кажу, што я сама не змагу. І шукаю дапамогі. Увайшла ў другі пакой, а там сядзіць старэча, сівы. Я яшчэ не паспела адазвацца, а ён падае мне шклянку з гарэлкай і кажа: „Выпі!" Я ўзяла, выпіла і падумала: „Ніколі я гарэлкі не п'ю, але можа, як я яе вып'ю, то гэты чалавек мне паможа". Глянула на свае ногі, бачу — я босая. Мае чаравікі стаяць пад сталом. Я абула іх і пайшла да дзвярэй. Прачнулася.

**Кацярына**

Кацярына! Твой сон сведчыць пра тое, што ў нейкай добрасумленнай і карыснай працы (пра якую гаворыць той мяшок, што стаяў на стале) табе нешта не ўдасца. Ты ж не змагла яго сама падняць і пачала шукаць дапамогі. А табе, замест памагчы, той сівы старэча налівае шклянку гарэлкі, а ты яе з дабрыні сэрца выпіваеш. Значыць, нейкія неразумныя сябры не толькі табе не дапамогуць, але нават і перашкодзяць. Ну, і бачыш: ты босая, значыць, нейкая страта. Але ж ты знайшла свае чаравікі. Будзе, бадай, нейкае падарожжа — сумнае, бо чаравікі былі чорныя, ды і вопратка таксама.

**АСТРОН**

## КАЛІ З АНТАРКТЫДЫ ЗНЯЦЬ ЛЁД...

Новую карту Антарктыды без звыклага ледзянога покрыва склалі расейскія вучоныя-палярнікі. На ёй указаны горы, вышынёю ў 2000 метраў, катлавіны, упадзіны, раўніны. Упершыню паказана таўшчыня ледавікоў.

У распараджэнні вучоных сучасныя даследчыя судны, авіяцыя, вылічальная тэхніка, новая радыёлакацыйная і геафізічная апаратура. Шэсць пастаянна дзеючых станцый у розных раёнах мацерыка, у тым ліку станцыя Усход, якая размешчана на полюсе холаду, рэгулярна даюць звесткі аб мацерыку.

Новая карта Антарктыды - вынік комплекснага вывучэння кантынента. Паводле яе можна прагназіраваць адкрыцці тамашніх карысных выкапняў. Карта ў многім даказвае геалагічную ідэнтычнасць Антарктыды з Афрыкай, Аўстраліяй, Паўднёвай Амерыкай. Іншымі словамі, яна пацвярджае гіпотэзу аб існаванні легендарнага суперкантынента Гандвана, які сотні мільёнаў гадоў назад займаў усё паўднёвае паўшар'е, але потым знік.

**(А-ЦЯ)**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ЗАПЯКАНКА З ЯБЛЫКАМІ**

**Прадукты:**
*1 чэрствы белы батон,*
*паўкілаграма кіслых яблыкаў,*
*3 шклянкі малака,*
*1 шклянка цукру,*
*10 дэкаў масла,*
*1 лыжка мукі,*
*1 пачачка ванільнага цукру,*
*цертая булка.*

Зняць з батона скарынку, нарэзаць яго тонкімі скрылёчкамі (таўшчынёю каля паўсантыметра). У формачку палажыць пласт булкі, накрыць абабранымі, нашаткаванымі на тоненькія скрылёчкі яблыкамі (можна сцерці іх на тарцы), пасыпаць цукрам. Панакольваць відэльцам, заліць шклянкай малака. Пячы ў духоўцы паўгадзіны.

**Крэм**: Масла растапіць, дадаць муку, развесці 2 шклянкамі вады, перамешаны з 2-3 лыжкамі цукру. Давесці да кіпення, увесь час памешваючы. Зняць з агню, дадаць ванільны цукар, збіць венічкам. Палажыць крэм на запяканку.

**ГАСПАДЫНЯ**

## КРЫЖАВАНКА

**Гарызантальна**: 2. яма для заквашвання корму, 4. КДБ Івана Грознага, 6. прымас Польшчы, 7. прэзідэнт ЗША ў гадах 1797-1801, 9. правы прыток Волгі, 11. вопратка службоўца, 12. драўляная або металічная дуга, на якой будаўнікі кладуць скляпенне, арку і т.п., 13. травяністая расліна, 15. набойка на падэшве пад пятой, 17. металічная пласціна, якая набіваецца на бочкі, кадушкі, 18. памяшканне для трапання валакна, 19. змазачнае масла.

**Вертыкальна**: 1. знак прыпынку, 2. рэзкі гук, які ўзнікае пры трэнні, 3. частка тулава ад шыі да крыжа, 4. запаленне апендыкса (сляпой кішкі), 5. цяпліца, 6. некалькі чалавек, прадметаў, 8. асілак, 9. від папугая, 10. мера зямельнай плошчы ў Англіі, 14. Еўропа і Азія, 16. гара з крутымі схіламі, 17. першая літара грэчаскага алфавіта.

**(Ш)**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 30 н-ра**: паёк, плён, клён, апёк, авёс, асцё, маёр, асёл, наём, ягнё, цёця, анёл.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**АМБРОЗ БІРС**

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Перавага** (аднаго перад другім) — пачуццё, якое выклікана памылковай верай у тое, што адна рэч лепшая за іншую. У старажытнага філосафа, які сказаў, што жыццё не лепшае ад смерці, вучань спытаў: „А чаму вы не памрэце?" „Бо смерць не лепшая ад жыцця, — адказаў той. — Яна даўжэйшая".

**Перакладчык** — той, хто дапамагае людзям, што размаўляюць на розных мовах, зразумець адзін аднаго. Дасягаецца гэта тым, што перакладчык кажа аднаму, што сказаў іншы, інтэрпрэтуючы сказанае на сваю карысць.

**Перамір'е** — сяброўства.

**Перасцярога** — лёгкая вымова, напрыклад, з дапамогай сякеры.

**Перасягнуць** — прыдбаць ворага.

**Пірат** — марскі палітык.

**Пісака** — прафесійны пісьменнік, погляды якога не супадаюць з нашымі.

**Планаваць** — шукаць найлепшы шлях да дасягнення выпадковага выніку.

**Плёткі** — любімая зброя забойцаў добрага імені.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

# НАВУКА



*Малюнак Я. Бусла*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Калісь мой сябра расказваў, быццам знайшоў такую дзяўчыну, што чацвёра сутак з яе ложка не вылазіў. Я пачала смяяцца, кпіць з яго, што хвалько. Яму нават стала няёмка ад гэтых маіх кпінаў. А тут на табе!..

Летам я вырашыла паехаць на Мазуры. Якраз нядаўна пазнаёмілася з хлопцам, які быў даволі прыемны на выгляд, але бліжэй я яго не ведала. Я бачыла, што падабаюся яму, і адважылася запрапанаваць супольную паездку. Жыць я збіралася ў палатцы, дык з хлопцам было б весялей і не так боязна.

Праўду кажучы, я вельмі хвалявалася, бо не была ўпэўнена, ці ён згодзіцца паехаць са мною. А ён, уяві сабе, нават вельмі ўцешыўся...

На Мазурах было вельмі міла. Вядома, мы без ніякіх цырымоній зрабілі ў палатцы супольнае гняздзечка, бо ў суме ж кожны з нас ведаў, чаго ён сюды едзе. І тут мяне сустрэла прыемная неспадзяванка: хлопец у каханні быў надзвычайны! Я радавалася, што на вакацыі выбрала такога добрага партнёра. Я думала, што мы будзем кахацца толькі ўначы, але выйшла неяк так, што мы кахаліся цэлымі днямі, а ўначы валіліся, як снапы, і спалі. Прыходзіў ранак, і мы зноў пачыналі ўсё спачатку.

Мне было крыху шкада сонца і пляжа, бо ў жніўні якраз палепшылася надвор'е, а я ж вельмі люблю загараць і купацца. Едучы на азёры і беручы з сабой хлопца, я меркавала, што ён будзе толькі адным з элементаў прыемнага адпачынку. А тут высветлілася, што яму не былі патрэбны ні сонца, ні азёры. Ён хацеў адно кахацца. Часамі мы вылазілі з палаткі толькі пад вечар і тады ішлі штосьці з'есці. Папраўдзе, дык і на гэта ў нас не было часу, бо ці хацелася есці, калі было так цудоўна...

Аднойчы мы пазнаёміліся з адпачываючымі тут немцамі. Яны запрасілі нас вечарам у рэстаран. Фактычна я бачыла, што гэта я спадабалася аднаму з іх, але, відаць, былі гэта культурныя людзі і таму запрасілі нас дваіх. Мо думалі, што я буду больш „кампанійная", а тут не было рады. Мой хлопец даслоўна не выпускаў мяне з рук. Прытуляў мяне, цалаваў. Пасля пайшлі танцаваць і, калі прытуліўся да мяне ўсім целам, а зразумела, што яму цяпер не да танцаў. Ну, і мне зрабілася цёпла. Пайшлі дахаты, шапнуў мне на вуха. А як жа яны? — спытала разгублена я, бо ўжо і сама не ведала, што рабіць. Не заўважаць!

Мы „па-англійску" выслізнулі з рэстарана, але я бачыла расчараваны позірк таго немца, які звярнуў на мяне ўвагу. Іншыя гулялі з нейкімі дзяўчынамі, а ён сядзеў і прыглядаўся.

Мы вярнуліся ў сваю палатку і там адчулі сябе па-сапраўднаму шчаслівымі. На гэты раз кахаліся да раніцы, ды і ўсе вакацыі засталіся ў маёй памяці пад знакам сексу. Праўда, хлопец гэты вярнуўся да сваёй дзяўчыны, з якой быў пасвараны якраз тады, калі я яго запрасіла на Мазуры, але што мае — то мае, праўда, Сэрцайка?!

**Агата**

Агата! Цвёрдая штука з цябе! Хлопца ўзяла на вакацыі, каб было весялей і не так боязна ў палатцы. Амаль жа не ведала ты яго, а зарызыкавала. Такі мог бы атруціць увесь адпачынак, каб не давядзі Божа, імпатэнтам якім аказаўся. Але табе пашанцавала: хлопец меў сексуальную патэнцыю, ды яшчэ якую! Так што той „элемент" тваіго адпачынку запаліў цябе цалкам. А што цяпер? Аддала хлопца без бою? І не перажываеш, што да сваёй дзяўчыны вярнуўся?! Высветлілася, што гэта ты была „элементам" яго адпачынку! Такі, відаць, можа з кожнай, яму абы больш. Затое можаш цяпер пацяшацца: што тваё — то тваё. Шкада толькі, што было тваім так нядоўга...

**СЭРЦАЙКА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Не пхайся на афішу, бо не ведаеш куды трапіш.

* * *

На какосавы арэх трэба ўскарабквацца.

* * *

Найбольшым ворагам ідэі з'яўляецца яе фанатык.

* * *

Утопія здзяйсняецца толькі ў сне.

* * *

Перасалоджаная дружба зацукруецца ва ўласны цэнь.

**БАРЫС РУСКО**

## ТОСТЫ

Вечарам па вуліцы ішла дзяўчына. Калі пачула за сабою крокі, аглянулася і пабачыла вельмі прыгожага хлопца. Яна аглянулася другі раз — хлопец далей ішоў за ёю. Дзяўчына вырашыла з ім пазнаёміцца. Аглянулася яна трэці раз — яго ўжо не было...

Дык давайце вып'ем за тое, каб асенізатары своечасова закрывалі каналізацыйныя люкі.

* * *

Мне хочацца пажадаць вам чатырох звяроў: норку на плячах, „ягуара" ў гаражы, льва ў пасцелі і барана, які за ўсё гэта плаціў бы!

* * *

Неяк прывёз цесць дровы з лесу. Тоўстыя, сукаватыя. Зяць рубаў на панадворку гэтыя дровы, моцна ўзмахнуў сякерай, і адляцеўшае палена папала ў галаву сварлівай цешчы. І насмерць!

Дык давайце вып'ем за мужчынскую салідарнасць!

## З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

ІМПРЕСІЇ

# «СЕР» ВИЛІЗ

(...)

— О, о. Янович, добре, що ти згадав. Вуон таксамо був колісь у нас. Люди зобралося мусит з петнаццеть, або й двацеть особ. Порозсядаліся вигодно в криеслах і слухаєм. Янович говорив нам про гісторію Бєлоруссії; знає їє сучи син, як мало хто з нас і наветь ведайє скоуль взялося наше плємє *), а от культури не має...

(...)

Я спершу нервовався не знаючи, що вуон плєте, а посля спати схотиелося, та взяв і пушов додому. Мние цікавєй було побачити „Династию", бо там виступає Алєксіс, якая усиех кругом малого пальця обкручує і робит, що сама хоче. За мною вишла решта, а прелєгент остався з кіровнічкою свитлиці.

— Ви не зрозуміли цього слова. Особисто думаю, що це не „сер виліз", а „сервілізм".

— А що то такоє?

— А, те вчене слово, яким підпираються люди, котри хочуть у ваших очах бути вченими, і щоб ви нічого не зрозуміли, а тільки охкали з завісті, що ще хтось є розумнійши від вас.

— А всьож такій, я того і затримався, щоб ти мние однак вияснив, що вуон хотиев тим сказати?

— Повторюю: це не «сер виліз», а сервілізм. По-нашому це слово означає — лізун, котрій виліже що хочте і продасть рідну матеру, аби добитись мети...

(...)

19.V.1992

**Василь Петручук**

*) Знаючи погляди С. Яновича, редакція Українського часопису Підляшшя «Над Бугом і Нарвою» сумнівається в цьому, — **Ред.**

НАД БУГОМ І НАРВОЮ 2/93

*Редакція Українського часопису Підляшшя «Над Бугом і Нарвою» вітає нашого письменника*

*Василя Петручука*

*з його прийняттям у Союз польських письменників та бажає нових успіхів і досягнень на українській літературній ниві, а також багатьох літ життя в доброму здоров'ї.*

Успіхів бажає також Сократ Янович — літературний хрищоний батько цього письменника.

P.S. "Сер" виліз" — літаратурны дэбют Васіля Петручука як украінскага пісьменніка. Лёгка сабе ўявіць, што будзе, калі гэтая кветка поўнасцю расцвіце.

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Выдае Гапка замуж сваю адзіную дачку. Ведаючы, што дачка не знае ложкавых тайнаў, два дні перад шлюбам гаворыць ёй:

— Пайдзі, Верачка, на панадворак і пагляздзі, як гэта робіць певень з курыцай.

Пасля шлюбу, ноччу падыходзіць муж да ложка і пытае:

— Верачка, ці ты не ашалела? Навошта налажыла шлем на галаву?

— Даражэнькі, я ўсё вытрымаю, толькі не вытрымаю дзюбання ў галаву.

* * *

Гаворыць жонка мужу:

— Даведалася я, што наша служанка зацяжарыла.

— Гэта яе справа.

— Але суседка гаварыла, што яна цяжарная з табою.

— Гэта мая справа.

— А што скажуць людзі?

— Гэта твая справа.

* * *

Іван з Оляй ідуць лесам. Бачаць — у кустах кахаецца пара.

— Іван, што ён ёй робіць? — пытае Оля.

— Мерае тэмпературу.

Ідуць далей і бачаць другую пару, трэцюю, чацвертую.

Дайшлі да сенажаці.

— Іванка, то можа і ты памераеш мне тэмпературу?

— Ох, цудоўна! А то мне ртуць цячэ ўжо па назе.

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Што ў цябе чуваць? Выйшла можа замуж за Івана?

— Не, кінуў мяне і ажаніўся з другою.

— Чаму?

— Бо даведаўся, якія грошы плачу сваёй краўчысе.

— А з кім ажаніўся?

— З гэтаю краўчыхаю.

**Даслаў АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**